


*"Каб усе былі адно" (Ян, 17, 21)*

# Царква

№ 3 (14), 1997 НАРАДЖЭНЬНЕ БАГАРОДЗІЦЫ




## *Трапар, тон 4*

Нараджэньне Тваё, Багародзіца Дзева, абвясьціла радасьць усяму сьвету, бо з Цябе зазьзяла Сонца праўды, Хрыстос Бог наш, які скасаваў праклён, Ён даў бласлаўленьне і зьнішчыў сьмерць ды дараваў нам жыцьцё вечнае.

## *Кандак, тон 4*

Сьвятым нараджэньнем Тваім, Найчысьцейшая, вызваліла Якіма й Ганну з ганьбы бязьдзетнасьці, а Адама і Еву ад сьмяротнай гібелі. Яго ж сьвяткуюць і людзі Твае, што збавіліся ад асуджэньня за грахі, да Цябе прамаўляюць: "Няплодная нараджае Багародзіцу і Маці жыцьця нашага".

*НАРАДЖЭНЬНЕ МАЦІ БОЖАЙ. Столінскі майстар. Да 1700 г. Абраз выяўлены ва ўніяцкай царкве Нараджэньня Маці Божай (1730) с.Рухча Столінскага р-ну Берасьцейскай вобласьці*


Грэка-каталіцкі сабор у Нырэдзьгазе

# Сустрэча ерархаў Усходніх Каталіцкіх Цэркваў у Нырэдзьгазе

Ня выключана, што сустрэча ерархаў Усходніх Каталіцкіх Цэркваў, якая адбывалася 30 чэрвеня — 6 ліпеня 1997 году ва ўсходневенгерскім горадзе Нырэдзьгаза, нечакана для многіх (журналісты назвалі яе вынікі пэўнай нечаканасьцю) будзе запісана ў гісторыю Цэркваў Еўропы XX стагоддзя як ня менш яскравая падзея, чым нядаўняя II Еўрапейская экуменічная асамблея ў Грацы (Аўстрыя).

Арганізатарам сустрэчы выступіла Кангрэгацыя Ўсходніх Цэркваў, якую прадстаўляў кардынал прэфект Ахіле Сільвестрыні, а таксама 5 яе працаўнікоў. У якасьці афіцыйных дарадцаў на ёй прысутнічалі архібіскуп Хосэ Сараіва Марцінс, сакратар Кангрэгацыі Каталіцкага Выхаваньня, а таксама архібіскуп Жан-Клод Пэрысэ, сакратар-памочнік Папскай Рады Спрыяньня хрысьціянскай еднасьці.

На сустрэчу сабраліся ўсходне-каталіцкія біскупы, ардынарыі і протаархімандрыты Еўропы, усяго разам з дарадцамі каля 100 асобаў. Большасьць удзельнікаў сустрэчы прадстаўлялі Ўсходнія Каталіцкія Цэрквы візантыйскай традыцыі з усёй Еўропы: ад Беларусі да Балгарыі, Македоніі і Грэцыі і ад Украіны да Вялікабрытаніі, аднак была прадстаўлена таксама і Армянская Каталіцкая Царква (з краінаў Арменіі, Румыніі, Грэцыі і Францыі). Самымі шматлікімі групамі былі дэлегацыі грэка-каталіцкіх біскупаў Украіны і Румыніі.

Удзельнікаў сустрэчы ў сваёй рэзідэнцыі ў г.Нырэдзьгаза вельмі гасьцінна сустрэў ардынарый грэка-каталіцкай епархіі Гайдудораг, Апостальскі адміністратар экзархату Мішкальц біскуп Сілард Кэрэстэш. Паседжаньні адбываліся ў грэка-каталіцкім тэалагічным інстытуце сьв. Атаназія пад кіраўніцтвам прэфекта Кангрэгацыі Ўсходніх Цэркваў кардынала Ахілеа Сільвестрыні. Яны завяршаліся ўрачыстай Літургіяй, якая адпраўлялася штодзень у іншай мове. У апошні дзень працы на Літургіі, якая адпраўлялася ў грэцкай мове, прысутнічаў сербскі праваслаўны біскуп Будапешту-Сэнтэндры Даніла, а таксама амбасадары Грэцыі і Балгарыі. Спатканьне ўсходне-каталіцкіх ерархаў завершылася пілігрымкай усіх удзельнікаў сустрэчы ў санктуарыюм Багародзіцы ў г.Мар'япоч. Вынікам напружанай працы ерархаў сталі Ліст да Рымскага Архірэя Яна Паўла II, а таксама прынятыя тэксты Выніковага дакументу, Дэкларацыі пра экуменічнае заангажаваньне і Пасланьне да вернікаў.

Беларускую Грэка-Каталіцкую Царкву ў Нырэдзьгазе прадстаўляў Апостальскі візітатар для грэка-католікаў Беларусі архімандрыт Сяргей Гаек, які падчас сустрэчы ўзначальваў рабочую групу па справах экуменізму. Менавіта гэтай групай быў падрыхтаваны тэкст прынятай на сустрэчы ерархаў Дэкларацыі пра экуменічнае заангажаваньне, якая ёсьць сьведчаньнем уласнай тоеснасьці Ўсходніх Каталіцкіх Цэркваў, іх гатоўнасьці да дыялогу з іншымі Цэрквамі. У сёньняшняй складанай міжканфесійнай сітуацыі гэтая Дэкларацыя мае асаблівае значэньне. Яна сьведчыць таксама і пра тое, што Ўсходнія Каталіцкія Цэрквы Еўропы па выхадзе з падпольля прагнуць быць ня проста нейкай экзатычнай групай хрысьціянаў, але паўнавартасным партнёрам у экуменічным руху.

**Вікенцій Верамяюк**

# Пасланьне

## ерархаў Усходніх Каталіцкіх Цэркваў Еўропы да сваіх Супольнасьцяў

1. Мы, ерархі Ўсходніх Каталіцкіх Цэркваў Еўропы, сабраныя ў Нырэдзьгазе ў Венгрыі 30 чэрвеня — 6 ліпеня 1997 году, шлём сваё сардэчнае прывітаньне ў Хрысьце духавенству, манахам, манашкам і сьвецкім вернікам нашых Цэркваў.

У гэтыя дні мы мелі магчымасьць перажываць у братэрскай супольнасьці, што была паміж намі, інтэнсіўныя хвіліны малітвы і разважаньняў. Мы дзяліліся нашым досьведам, радасьцямі і клопатамі ды сумеснай душпастырскай руплівасьцю, разважаючы над сёньняшнім станам даверaных нам супольнасьцяў.

У сустрэчы браў удзел Яго Эмінэнцыя Кардынал Ахіле Сільвестрыні, прэфект Кангрэгацыі Ўсходніх Цэркваў, які прывёз для нас прывітаньне ад Сьвятога Айца, выказанае ў Ягоным сьпецыяльным Пасланьні.

Сьвяты Айцец падкрэсьлівае, што "чым больш Усходнія Цэрквы будуць самімі сабой, тым больш выразнае будзе іх сьведчаньне, больш вiдавочная будзе іх прыналежнасьць да хрысьціянскага Ўсходу і больш каштоўнае будзе іх узаемадапаўненьне ў адносінах да заходняй традыцыі". Цэрквы, якія выходзяць з перасьледаваньняў, выказваюць Сьвятому Айцу жывую ўдзячнасьць за сталую падтрымку, якую Ён удзяляў ім у часы падпольля і, згодна з Ягоным наказам, бяруцца за выкананьне "цяжкай задачы выхаду з катакомбаў, каб адказаць на патрэбы вернікаў, якія вызваліліся нарэшце з аковаў перасьледаваньняў, але спакушаюцца новымі ілюзіямі і паддаюцца новым выклікам".

2. Праца на сустрэчы была засяроджана на пяці вялікіх тэмах: наша царкоўная тоеснасьць, выхаваньне сьвятарства і людзей сьвецкіх, літургічнае жыцьцё, манаства і экуменічнае заангажаваньне. У гэтых працах нас падтрымлівалі прадстаўнікі Сьвятога Пасаду, эксьперты па дыскутуемай праблематыцы і зьверхнікі манаскіх супольнасьцяў нашых Цэркваў.

3. Сумесныя разважаньні зрабілі больш выразнай аўтэнтычнасьць нашага быцьця католікамі і прыналежнасьці да ўсходняй традыцыі. Верныя нашай спадчыне, мы ўносім наш уклад для прысутнасьці ў сэрцы Царквы багацьця хрысьціянскага Ўсходу.

Азіраючыся на нашу гісторыю, мы адкрываем, што гэтае багацьце выражаецца перадусім у аўтэнтычным літургічным жыцьці і ў глыбокай духоўнасьці, якія жывяцца з каранёў нашых Цэркваў.

Для таго, каб жыць паўнатой нашай усходняй традыцыі, якая дапамагае нам вырашаць актуальныя праблемы, мы мусім імкнуцца пазнаць яе яшчэ больш глыбока. На гэтым шляху катэхетычнае і літургічнае фармаваньне складае для нашых Цэркваў прыярытэтную задачу.

Мы выказваем пажаданьне, каб манаства, як гэта было ў крыжовыя моманты гісторыі Царквы, падобным чынам і ў наш час зьяўлялася важным пунктам апоры ў духоўнай аднове.

Засмучае нас той факт, што яшчэ ня зьдзейсьнілася поўнасьцю воля Хрыста "каб усе былі адно" (Ян, 17, 21). Усьведамляючы глыбокія духоўныя і культурныя сувязі, якія яднаюць нашыя Цэрквы з Праваслаўнымі Цэрквамі, мы выказваем нашу нязьменную волю да супрацоўніцтва з імі для спрыяньня, пад натхненьнем Духа Сьвятога, поўнай еднасьці і сумеснага сьведчаньня ў сьвеце.

Дарагія Браты і Сёстры! Прызываючы на вас блаславеньне Айца Спрадвечнага, Сына Адзінароднага і Ўсесьвятога Духа, запрашаем вас да малітвы, каб гэты досьвед супольнасьці і братэрскай любові, які жыве сярод нас, мог распаўсюдзіцца на ўвесь люд Божы нашых Цэркваў.

*"А Бог згоды, Які ўзьнёс з мёртвых Пастыра авечак вялікага Крывёю запавета вечнага, Госпада нашага Ісуса Хрыста, хай удасканаліць вас у кожнай добрай дзеі, на выкананьне волі ягонай, творачы ў вас заўгоднае Яму, праз Ісуса Хрыста. Яму слава на векі вечныя! Амін. " (Габр 13, 20-21).*

*Нырэдзьгаза, 6 ліпеня 1997 году*

# Дэкларацыя

## біскупаў і зьверхнікаў манаскіх супольнасьцяў Усходніх Каталіцкіх Цэркваў Эўропы пра экуменічнае заангажаваньне

*Ныірэдзьгаза, 5 ліпеня 1997 году*

1. Мы, прадстаўнікі Усходніх Каталіцкіх Цэркваў Эўропы, сьцьвярджаем наступнае:

- Усходнія Каталіцкія Цэрквы ёсьць царкоўнай рэчаіснасьцю, якая знаходзіцца ў супольнасьці з Рымскай Апостальскай Сталіцай і пацьверджана на працягу гісторыі. Гэтая супольнасьць ня ёсьць нейкім пераходным і няпэўным станам, але ёсьць паўнатой эклезіяльнасьці;

- як частка Каталіцкай Супольнасьці гэтыя Цэрквы маюць права існаваць і дзейнічаць для таго, каб адказваць на духоўныя патрэбы сваіх вернікаў, дзе б яны не знаходзіліся;

- застаючыся ў поўным адзінстве з Рымскай Апостальскай Сталіцай, гэтыя Цэрквы маюць правы і абавязкі, зьвязаныя з супольнасьцю, да якой належаць;

- усходнія католікі, дзеці Каталіцкай Царквы, трымаючыся ўласнай духоўнай спадчыны і прагнучы жыць ёй вярней і паўней, жывуць ужо ў поўным адзінстве з братамі, якія захоўваюць заходнюю традыцыю. Гэтая іхняя спадчына, духоўная і літургічная, дысцыплінарная і тэалагічная, у сваіх разнастайных традыцыях, належыць да поўнай каталіцкасьці і апостальскасьці Царквы *(пар. Дэкрэт пра экуменізм, 17).*



*Мар'япоч. Грэка-каталіцкі манастыр айцоў-базыльянаў XVIII ст.*



*Мар'япоч. Унутраны выгляд грэка-каталіцкай царквы айцоў-базыльянаў*

2. Усходнія Каталіцкія Цэрквы, усьведамляючы глыбокія духоўныя і культурныя сувязі, якія яднаюць іх з Праваслаўнымі Цэрквамі, выказваюць сваю нязьменную волю да супрацоўніцтва з імі, каб спрыяць поўнаму адзінству і іх сумеснаму сьведчаньню ў сьвеце, паводле волі Хрыста і пад натхненьнем Духа Сьвятога.

3. Адносна гісторыі нашых сумесных стасункаў з праваслаўнымі братамі, якая пазначаная пэўнымі балеснымі ўспамінамі, за тое, у чым Усходнія Каталіцкія Цэрквы ёсьць адказныя на працягу вякоў, разам з нашым Сьвятым Айцом Янам Паўлам II мы просім прабачэньня *(пар. энцыкліку Ut unum sint 88)*, у надзеі на ўзаемнае прымірэньне.

4. Усходнія Каталіцкія Цэрквы, усьведамляючы сваю тоеснасьць, глыбока адчуваюць сваю асаблівую задачу спрыяньня еднасьці сярод усіх усходніх Цэркваў, перадусім праз малітвы, прыклад жыцьця і пашанлівую вернасьць адносна старажытных усходніх традыцыяў, лепшае ўзаемапазнаньне, супрацоўніцтва і братэрскую павагу да рэчаў і асобаў *(пар. Дэкрэт аб Усходніх Каталіцкіх Цэрквах, 24; Кодэкс Канонаў Усходніх Цэркваў, кан. 903).*

5. Разьвіваючы экуменічную дзейнасьць, асабліва праз адкрыты, даверлівы дыялог і праз сумесныя ініцыятывы з праваслаўнымі братамі, Усходнія Каталіцкія Цэрквы ўсьведамляюць патрэбу захаваньня пажаданай разважнасьці і пазьбяганьня небясьпекі фальшывага ірэнізму, індыферэнтызму і павярхоўнасьці *(пар. ККУЦ кан. 905)*. У прыватнасьці належыць імкнуцца пазьбягаць неразважлівых словаў і ўчынкаў.

6. Усходнія Каталіцкія Цэрквы прагнуць, каб братэрскі дыялог быў упрывілеяваным сродкам ва ўсіх іх стасунках з праваслаўнымі братамі. Асабліва ў выпадку канфлікту заўжды належыць шукаць выйсьце праз дыялог.

7. Усходнія Каталіцкія Цэрквы гатовыя плённа рэалізоўваць любую ініцыятыву, у якой могуць працаваць не самі, але сумесна з праваслаўнымі братамі, як, напрыклад, справы міласэрнасьці, сацыяльнай справядлівасьці, абароны годнасьці чалавечай асобы і яе падставовых правоў, спрыяньне міру, сьвяткаваньне ўгодкаў бацькаўшчыны, нацыянальныя сьвяты і г.д. *(пар. ККУЦ кан. 908).* Яны будуць імкнуцца таксама супрацоўнічаць з іншымі Цэрквамі і Царкоўнымі супольнасьцямі, згодна з мясцовымі варункамі.



*Мар'япоч. Цудатворная ікона Маці Божай*

## Ян Павел II зьвярнуўся да каталіцкіх біскупаў усходняй традыцыі

Ян Павел II зьвярнуўся да біскупаў Каталіцкіх Цэркваў усходняй традыцыі з заклікам дапамагчы ў паслабленьні напругі паміж каталіцтвам і праваслаўем. У пасланьні, якое адрасавана прэфекту Кангрэгацыі Ўсходніх Цэркваў Ахіле Сільвестрыні — галоўнаму прадстаўніку Ватыкану на сустрэчы грэка-каталіцкіх біскупаў і генеральных настаяцеляў манаскіх ардэноў, якая праходзіла з 30 чэрвеня па 6 ліпеня ў Ньірэдзьгазе,— Ян Павел II назваў гэтую нараду важнай падзеяй.

Каталіцкія Цэрквы ўсходняй традыцыі — сёньня іх лік дасягае 21 — падзяляюць адно і тое ж веравучэньне, але пры гэтым выкарыстоўваюць розныя абрады. Сустрэча ў Ньірэдзьгазе дае прадстаўнікам гэтых Цэркваў цудоўную нагоду памаліцца і абгаварыць важныя праблемы. Зацьвярджаючы сваю ўласную ідэнтычнасьць,— піша Ян Павел II,— усходнія Каталіцкія Цэрквы павінны спрыяць разьвіцьцю праваслаўна-каталіцкаму дыялогу. Рымскі Архірэй сказаў, што сустрэча ў Ньірэдзьгазе стала магчымаю толькі дзякуючы карэнным зьменам у палітычным жыцьці Ўсходняй Еўропы, на тэрыторыі якой дзейнічае значная частка грэка-каталіцкіх супольнасьцяў.

У інтэрв'ю "Радыё Ватыкан", кардынал Сільвестрыні заўважыў, што гэта ёсьць першая сустрэча такога плану, якая павінна дапамагчы католікам усходняй традыцыі "адрадзіць спадчыну іх мучанікаў, глыбей усьвядоміць пастырскія патрэбы і абнавіць надзею на працяг экуменічнага дыялогу".

## *РПЦ пераглядае стаўленьне да Баламандзкага пагадненьня*

17 ліпеня ў Сьвята-Троіцкай Сергіевай лаўры адбылося пасяджэньне Сіноду РПЦ пад кіраўніцтвам Патрыярха Алексія II, у якім узялі ўдзел 12 архірэяў, 6 з якіх зьяўляюцца пастаяннымі членамі Сіноду, а 6 астатніх абіраюцца на паўгады.

На Сінодзе разглядаліся кадравыя пытаньні і абгаворваліся вынікі пастырскіх візітаў Патрыярха. Таксама ерархі РПЦ разгледзелі вынікі працы Сінадальнай багаслоўскай камісіі па пытаньнях вывучэньня праваслаўна-каталіцкага дыялогу. Было разгледжана стаўленьне Рускай Праваслаўнай Царквы да дакументу, які быў прыняты зьмешанай міжнароднай камісіяй па багаслоўскаму дыялогу паміж Каталіцкай і Праваслаўнымі Цэрквамі ў 1993 годзе ў г.Баламанд. У даведцы, якая была пададзена багаслоўскай камісіяй членам Сіноду, гаворыцца: "Баламандзкі дакумент ня ўносіць нічога прынцыпова новага, але толькі выкарыстоўвае традыцыйнае для праваслаўя стаўленьне да каталіцызму. Разам з тым, Сінадальная багаслоўская камісія РПЦ лічыць неабходным удакладніць цэлы шэраг палажэньняў дакументу, такіх як: ужываньне тэрміну "Цэрквы-Сёстры", выкарыстаньне якога ў тэксьце дакументу было прадыктавана хутчэй эмацыйнымі, чым дагматычнымі прычынамі". Члены Сіноду РПЦ лічаць неабходным правядзеньне сьпецыяльнага агульнаправаслаўнага абмеркаваньня Баламандзкага пагадненьня.

## Балгарская Праваслаўная Царква абвясьціла незалежнасьць ад дзяржавы

3 ліпеня Сабор Балгарскай Праваслаўнай Царквы, які адбываўся ў Сафіі пад кіраўніцтвам Патрыярха Максіма, фармальна ўстанавіў незалежнасьць Царквы ад дзяржавы.

На саборы БПЦ, які адбыўся ўпершыню за апошнія 44 гады, было вырашана склікаць такія саборы кожныя чатыры гады. Сабор афіцыйна заявіў, што БПЦ адмаўляецца выконваць уведзеныя пры камуністычным рэжыме правілы, згодна з якімі кандыдатура новаабранага Патрыярха павінна зацьвярджацца ўрадам.

Сабор праходзіў у цяжкія для БПЦ часы: сёньня яшчэ больш паглыбіўся раскол, які адбыўся ў Царкве ў 1992 годзе. Частка вернікаў і духавенства адмовіліся падпарадкоўвацца Патрыярху Максіму — яны абвінавацілі яго ў супрацоўніцтве з камуністамі. Новы ўрад Балгарыі сёньня аддае перавагу альтэрнатыўнаму Сіноду на чале з колішнім мітрапалітам Піменам, які ў мінулым годзе на царкоўна-народным саборы быў абраны Патрыярхам.

## Грэка-католікі Румыніі спрабуюць вярнуць сваю маёмасьць

У Румыніі цяпер ідзе актыўнае абмеркаваньне законапраекту адносна вяртаньня царкоўнай маёмасьці, якая адабрана ў грэка-католікаў і перададзена праваслаўным у часе камуністычнага рэжыму. З-за гэтага законапраекту ўзаемаадносіны паміж дзьвюма Цэрквамі значна пагоршыліся. Грэка-католікі прапануюць праваслаўным у сельскіх мясцовасьцях, хоць бы адзін з храмаў вярнуць, які ім належыў да Другой Сусьветнай вайны. У свой час камуністычныя ўлады краіны перадалі праваслаўным 2500 грэка-каталіцкіх цэркваў. Таму сёньня, на думку парламентарыяў-католікаў, дзяржава павінна гарантаваць іх вяртаньне.

Аднак праваслаўны Патрыярх Тэактыст, да Царквы якога, як ён заяўляе, належыць 87% 28-мільённага румынскага насельніцтва, назваў законапраект "дыктатам" і "мэтанакіраванай зьнявагай" ватыкана-праваслаўных дамоўленасьцяў. Праваслаўнае выданьне "Вэсціторул Артадоксіі" лічыць, што гэты закон ёсьць замаскаванай формай празелітызму і заклікала заканадаўцаў адхіліць яго. Гэты закон яшчэ будзе абмяркоўвацца ў ніжняй палаце румынскага парламенту, паколькі прыхільнікі праваслаўя заблакавалі яго прыняцьце.

Румынская дзяржава прызнала Грэка-Каталіцкую Царкву толькі ў 1990 годзе, пасьля 42-гадовай забароны. Грэка-каталіцкая архіепархія, 778 грамадаў якой да гэтага часу атрымалі менш за 100 з іхніх больш чым дзьвюх тысячаў храмаў, заклікала праваслаўнае духавенства рэагаваць "спакойна і ў духу справядлівасьці".

## Львоўскія дэпутаты супраць гандлю на рынках у нядзелю

10 ліпеня на пленарным паседжаньні Львоўскай гарадзкой Рады паіменным галасаваньнем было прынята рашэньне пра тое, каб увесьці забарону на гандаль на прамтаварных рынках гораду ў нядзелі і сьвяты. Гэтае рашэньне ўступіла ў сілу з 1 верасьня 1997 году.

Такое рашэньне львоўскіх дэпутатаў было прынята ў сувязі са зваротамі выбаршчыкаў, якія прасілі годна ўшанаваць ва Ўкраіне — дзяржаве з больш як 1000-гадовай хрысьціянскай традыцыяй — нядзелю, Сьвяты Дзень, у які ўваскрос Ісус Хрыстос, Збавіцель чалавецтва.

## Жыцьцё грэка-католікаў Эстоніі

Дзякуючы дапамозе нямецкага фонду "Рэнавабіс" і міжнароднай арганізацыі "Царква ў патрэбе", нядаўна быў закончаны рамонт даху адзінай грэка-каталіцкай царквы Ўваскрасеньня Гасподняга ў сталіцы Эстоніі Тальліне. Мясцовая грамада грэка-католікаў складае больш за 300 чалавек. Душпастырам яе зьяўлецца а. Павел Яхімец чыну сьвятога Васіля Вялікага, які прыязджае з Вільні. У Эстоніі ён таксама абслугоўвае грэка-каталіцкія парафіі ў гарадах Саведра і Пыльва. У гэтым годзе пры царкве пачала працаваць нядзельная школа для дзяцей. Працу з дзецьмі а. Паўлу дапамагаюць весьці сёстры-служэбніцы Найсьвятой Сям'і. Акрамя катэхізацыі, у нядзельнай школе вядзецца навучаньне ангельскай і нямецкай мовам.

## Біскуп, якога забілі савецкія вайскоўцы, будзе беатыфікаваны

Венгерскае прэсавае агенства *MTI* паведаміла, спасылаючыся на ватыканскія крыніцы, што ў лістападзе 1997 году Папа Рымскі Ян Павел II аб'явіць блаславёным біскупа Вільмара Апара, які быў забіты ў 1945 годзе. Ватыканская Кангрэгацыя сьвятых нядаўна вызнала яго мучаніцтва.

Біскуп Дзьерскі Вільмар Апар быў забіты савецкімі вайскоўцамі за тое, што схаваў у сутарэньнях уласнага будынку групу жанчынаў і дзяўчат, якія не пажадалі трапіць у рукі ваякаў.

## Прадстаўнік Ватыкану тлумачыць правілы ўступленьня ў манастыр

“Першай умовай з боку Царквы адносна асобы, якая знаходзіцца ў шлюбе і жадае ўступіць у манастыр, ёсьць згода мужа альбо жонкі гэтай асобы,— паведаміў кардынал Вінчэнца Фаджыёла, прэзідэнт Папскай рады па тлумачэньнях заканадаўчых тэкстаў.— Царква прымае рэлігійныя матывацыі асобаў (паўналетніх), якія жадаюць пачаць манаскае жыцьцё, але толькі ў тым выпадку, калі згаданая ўмова выканана”. Неабходна таксама, каб дзеці гэтай пары, калі яны ёсьць, дасягнулі паўналецьця. Пры гэтым уступленьне ў манастыр аднаго з сужонкаў не павінна стаць прычынай матэрыяльнай ці маральнай шкоды для сям'і.

У пераважнай большасьці такіх выпадкаў гаворка ідзе пра сем'і, дзе муж і жонка не жывуць разам: г.зн., калі развод быў дадзены толькі цывільным судом або калі царкоўны трыбунал вызнаў шлюб нядзейсным.

## БАПЦ пратэстуе

Кансісторыя Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы выказала свой рашучы пратэст у сувязі з рэпрэсіямі, якія абрынуліся на рэдакцыю беларускай газеты “Наша Ніва” з боку Генеральнай пракуратуры Рэспублікі Беларусь. Намесьнік Генеральнага пракурора М.Сьнягір вынес рэдактару газеты С.Дубаўцу афіцыйнае папярэджаньне пра магчымае закрыцьцё газеты, якая зьмясьціла велікоднае прывітаньне вернікам БАПЦ ад мітрапаліта Ізяслава. Як лічаць у пракуратуры, зьмясьціўшы гэтае прывітаньне, рэдакцыя “Нашай Нівы” дапусьціла парушэньне заканадаўства краіны. Адзін з галоўных аргументаў пракуратуры — Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква не зарэгістравана як рэлігійная арганізацыя на тэрыторыі Беларусі. На думку пракуратуры, выказваньні ў велікодным лісьце мітрапаліта Ізяслава “носяць палітызаваны, апазіцыйны ўраду характар, што несумяшчальна з функцыямі рэлігійных арганізацыяў, і накіраваны на распальваньне варожасьці да іншых рэлігійных канфесіяў”.

У распаўсюджаным Кансісторыяй БАПЦ лісьце дзеяньні пракуратуры Беларусі кваліфікуюцца як жаданьне “задушыць свабоду сумленьня і слова” ў Беларусі. Нягледзячы на гэта БАПЦ “уважае за ейнае права і маральны абавязак ня толькі настаўляць паасобных людзей, але і рэагаваць на ўчынкі дзейнікаў, што на жыцьцё гэтых самых людзей уплываюць”. БАПЦ накіравала свой пратэст ня толькі да беларускага грамадзтва, але і да дзяржаўных уладаў ЗША і занятых абаронай людзкіх правоў і свабодаў арганізацыяў сьвету.

## Расейскае праваслаўе ў сьвятле сацыялагічных дасьледаваньняў

Выступы дэлегатаў II Еўрапейскай экуменічнай асамблеі, якая нядаўна прайшла ў аўстрыйскім горадзе Грац, дагэтуль выклікаюць жывы інтарэс і дыскусіі. На думку швейцарскага гісторыка-эклезіёлага Герда Штрыкера, словы Патрыярха Алексія II на форуме ў Грацы пра 100 мільёнаў праваслаўных хрысьціянаў у Расеі не адпавядаюць рэальнасьці. Гэтымі лічбамі Алексій II хацеў умаліць значэньне Канстанцінопальскага Патрыярхату і абгрунтаваць дамаганьні Расеі на кіруючую ролю ў праваслаўным сьвеце. Сацыялагічныя дасьледаваньні, якія былі праведзены расейскім праваслаўным тэолагам д-рам Андрэем Данілавым, пацьвярджаюць сумненьні Герда Штрыкера. У праваслаўі сёньня існуе рэальная пагроза падтрыманьня толькі фармальнай рэлігійнасьці. Аўтэнтычнасьць унутранага навяртаньня людзей, якія называюць сябе сёньня “праваслаўнымі”, вызначаецца прыведзенымі ніжэй лічбамі. Яны былі прыведзены ў нямецкім часопісе *“G2W” (“Вера Другога сьвету”, ч.5, 1997)* у грунтоўным артыкуле д-ра Андрэя Данілава.

Споведзь можна лічыць адным з істотных паказчыкаў духоўнасьці чалавека. Паводле дасьледаваньняў, праведзеных маскоўскім фондам *“Грамадзкая думка”*, 57% апытаных “праваслаўных” ніколі не спавядаліся, 28% — усяго робяць гэта адзін раз у некалькі гадоў, 9% — адзін раз на год, 2,2% — некалькі разоў на год, 0,9% — адзін-два разы на месяц, 0,2% — кожны тыдзень. Значыць толькі 3,3% “праваслаўных” выконваюць мінімальныя патрабаваньні для верніка. Калі яшчэ лічыць тых, хто спавядаецца хоць бы раз на год, то толькі 12,2% “праваслаўных” можна лічыць за практыкуючых хрысьціянаў. Больш за 85% тых, што называюць сябе “праваслаўнымі”, не адпавядаюць нават мінімальным патрабаваньням іхняй Царквы.

Такім чынам, сацыялагічнае дасьледаваньне сьведчыць, што масавае навяртаньне да праваслаўя, якое адзначаецца ў Расеі на працягу апошніх 10 гадоў, носіць выключна павярхоўны характар. Па сутнасьці, гэта толькі зьнешняя ідэалагічная замена “савецкага чалавека” на “расейскага праваслаўнага грамадзяніна”.

Наведваньне набажэнстваў таксама дае канкрэтнае ўяўленьне пра ступень рэлігійнасьці грамадзянаў. Тут карціна не такая жахлівая. Толькі 18,5% апытаных ніколі не былі на набажэнствах. 39% наведвалі царкву раз у некалькі гадоў, 20% робіць гэта раз на год, 15% — некалькі разоў на год, 5,2% — адзін-два разы на месяц і толькі 1,3% бывае на службе штотыднёва. Значыць нармальным патрабаваньням праваслаўя адпавядае толькі 6,5% так званых “праваслаўных”.

Апытаньне выявіла, што 44% “праваслаўных” ніколі не чыталі Сьвятога Пісьма, 29% — штосьці чыталі, але ня могуць нічога ўзгадаць, 62% “праваслаўных” ня ведаюць такой малітвы, як “Ойча наш”, 59% — ніколі не маліліся, а 29% —толькі зрэдку згадваюць імя Госпада. Ёсьць проста камічныя вынікі: 25% апытаных лічыць, што сьвятыя апосталы Пётр і Павел былі расейцамі...

Паводле гэтага апытаньня, асноўныя патрабаваньні Праваслаўнай Царквы задавальняюць толькі 1,7% так званых “праваслаўных”.

У пераважнай большасьці такіх “праваслаўных” спосаб мысьленьня і падыход да жыцьця ўвогуле не вызначаецца вераю. Праваслаўе асацыюецца з нечым абстрактным, настальгічным, стабільным, шчыльна зьвязаным з гісторыяй Расеі, асабліва царскай. Шмат сьвятароў адчувае тугу па савецкіх часах, калі іх эканамічны стан быў на шмат лепшы. Расея лічыцца сёньня праваслаўнай краінай, калі верыць заявам яе грамадзянаў. Але калі ўважліва разглядзець аб'ектыўныя дадзеныя, высьвятляецца, што ўласна хрысьціянскае ядро ахоплівае менш за 10% насельніцтва, гэта значыць, находзіцца ў такіх самых межах, як і пры савецкай уладзе. Адзінае, чаму можа пазайздросьціць Захад, гэта вялікай колькасьці сімпатыкаў.

*Інфармацыя падрыхтавана паводле паведамленьняў Агенцтва рэлігійнай інфармацыі (API), Каталіцкага інфармацыйнага агенцтва (KAI) і іншых прэсавых крыніцаў.*

## Сьвятая Тайна Споведзі*

Кожны чалавек паклiканы да сьвятасьцi. На жаль, нават мы, хрысьцiяне, працягваем грашыць. "Калi кажам, што ня маем граху,— ашукваем самi сябе, i праўды няма ў нас" (1 Ян 1, 8). Праз сьмяротны грэх чалавек траціць асьвячаючую ласку, губляе магчымасьць прыняцьця сьвятога Прычасьця, становiцца ворагам Богу i асуджае сябе на кару ў пекле. Нават паўсядзённы грэх зьмяншае ласку Божую, цягне за сабой дачасныя кары, хоць гэта i не пазбаўляе права прычашчацца. Але Госпад Iсус Хрыстос па Сваёй вялiкай мiласэрнасьцi ўстанавiў Тайну Споведзi, каб лекаваць раны нашых душаў, якiя мы зрабiлi самi сабе праз грэх. Ён даў апосталам, а таксама iхнiм пераемнiкам — бiскупам i сьвятарам — уладу даравацъ грахi.

Да споведзi трэба добра падрыхтавацца. Чалавек павiнен зрабiць рахунак сумленьня, г.зн. успомнiць усе свае грахi пасьля апошняй споведзi. Каб споведзь была важнай, патрабуецца перш за ўсё ўнутраная пакута — пакута сэрца. Чалавек павiнен перамянiць свае адносiны да граху, цьвёрда ў сваiм сэрцы пастанавiць больш не грашыць. Бяз гэтага нiякi вонкавы абрад не дапаможа. Найперш мусiць быць жаль за грахi. Дасканалы жаль за грахi будзе, калi чалавек шкадуе за свае грахi з чыстай любовi да Бога. Такi жаль адпускае нашыя паўсядзённыя грахi. Ён можа прыносiць таксама дараваньне i сьмяротных грахоў — калi чалавек пастанаўляе прыступiць да Тайны Споведзi, як толькi зьявiцца такая магчымасьць. Але ў чалавека можа мець месца i недасканалы жаль за грахi. Ён таксама зьяўляецца дарам Духа Сьвятога. Гэтак бывае тады, калi чалавек выказвае жаль за грахi толькi з-за страху перад Божымi карамi або з-за брыдоты да ўчыненага граху. Недасканалы жаль не прыносiць чалавеку дараваньне цяжкага грэху бяз споведзi.

Iншай важнай умовай споведзi зьяўляецца вызнаньне грахоў перад сьвятаром. Кожны сьвятар павiнен захоўваць таямнiцу споведзi. Ён нават ня можа карыстацца фактамi, якiя ён атрымаў на споведзi, са шкодаю для спаведнiка.

Грэка-католiк можа спавядацца ў любога каталiцкага сьвятара, а калi такой магчымасьцi не iснуе, то можна зьвярнуцца i да праваслаўнага сьвятара, якi ў прынцыпе ня мае права вам адмовiць.

У грэка-католiкаў iснуе дзьве формы ажыцьцяўленьня споведзi: на каленях i стоячы перад сьвятаром. Таму трэба кiравацца той формай, якая прынятая ў парафii.

Прыйшоўшы загадзя ў храм для споведзi, чалавек падыходзiць да сьвятара i вiтаецца з iм: "Слава Iсусу Хрысту!" Спаведнiк кажа сьвятару-спавядальнiку, калi ён быў апошнi раз на споведзi i цi выканаў накладзеную пакуту. Далей спаведнiк вызнае свае грахi перад сьвятаром. Чалавек павiнен вызнаць усе цяжкiя грахi, якiя ён усьведамляе i з якiх яшчэ не паспавядаўся. Тут не павiнна быць месца сораму, бо праз сьвятара мы спавядаемся Самому Богу, ад Якога немагчыма што-небудзь утаiць цi схаваць. Калi хтосьцi сьвядома затоiць на споведзi якi-небудзь грэх — гэта зробiць нядзейснай i нават сьвятататцкай усю споведзь. Можа здарыцца, што чалавек ненаўмысна забыўся згадаць пра якi-небудзь свой грэх. Ягоная споведзь усё ж будзе дзейснай. Забыты грэх трэба вызнаць на наступнай споведзi.

Грахi падчас споведзi трэба называць дакладна i ясна. Нельга дапускаць, каб сьвятар быў вымушаны "цягнуць за язык" чалавека.

Грахi прыносяць шкоду самому грэшнiку, яго блiжнiм, Царкве, усёй людзкай супольнасьцi. Таму пасьля вызнаньня ўсiх сваiх грахоў спаведнiк павiнен выказаць сваё шкадаваньне за iх. Ён павiнен уважлiва выслухаць настаўленьнi сьвятара, якi накладзе адпаведную пакуту. Яна мае за мэту духоўнае дабро чалавека: умацаваньне волi ў барацьбе з грахом, духоўны рост хрысьцiянiна. Калi ёсьць магчымасьць, спаведнiк павiнен выправiць шкоду, якую ён учынiў праз свой грэх (напрыклад, ён мусiць вярнуць скрадзеную рэч). Калi сьвятар зьдзейснiць разграшэньне, спаведнiк павiнен перахрысьцiцца i пацалаваць крыж.

У нармальных умовах споведзь можа быць толькi iндывiдуальнай. Каталiцкая Царква не ўхваляе практыку агульнай споведзi. Толькi ў экстрэмальнай сiтуацыi, напрыклад, калi iснуе пагроза сьмерцi i няма магчымасьцi, каб сьвятар мог паспавядаць кожнага чалавека i людзi могуць быць доўгi час пазбаўлены Божай ласкi — дапускаецца агульная споведзь.

Многiя пытаюцца, як часта трэба спавядацца. Згодна з царкоўным правам, спавядацца трэба хоць бы адзiн раз на год у велiкодны час. Лепш за ўсё не адкладаць споведзь на доўга. Трэба iсьцi да споведзi як можна хутчэй пасьля падзеньня ў грэх. Таксама належыць заўважыць, што велiкодную споведзь чалавек павiнен адбыць у свайго параха. Заўсёды трэба спавядацца пры небясьпецы сьмерцi.

З якога ўзросту трэба спавядацца? Як толькi дзiця навучыцца адрозьнiваць дабро i зло (прыкладна ва ўзросьце 7 гадоў), бацькi павiнны падрыхтаваць яго да Сьвятой Тайны Споведзi.

Споведзь дае чалавеку багатыя плады. Гэта перш за ўсё паяднаньне з Богам, нашым Айцом. Споведзь аднаўляе асьвячаючую ласку, а тым, хто ня мае цяжкiх грахоў,— павялiчвае яе. Да таго ж чалавек пазбаўляецца вечнай кары. У пэўнай ступенi зьмяншаецца таксама дачасная кара, аднаўляюцца заслугi за зьдзейсьненыя намi добрыя ўчынкi, якiя мы губляем праз грэх, у душу вяртаецца мiр, спакой, сумленьне, радасьць.

Сiстэматычная i добрасумленная споведзь дапамагае нашаму ўзрастаньню ў веры, надзеi, любовi.

Споведзь яднае нанова нас з Царквою, з людам Божым, якi церпiць ад граху кожнага свайго вернiка i радуецца ягонаму паяднаньню.

*(Працяг будзе)*

**Яўген Петухоў**
*г.Берасьце*

* *Пачатак у №1,2 за 1997 год*



# Сьвятыя тайны Хрыстовай Царквы

# Адноўлена беларуская сьвятыня — крыж сьвятой Еўфрасіньні Полацкай

*24 жніўня 1997 году ў Берасьці адбылася значная падзея ў духоўным жыцьці Беларусі: у праваслаўным Сьвята-Сімяонаўскім саборы горада адбылося ўрачыстае асьвячэньне адноўленай сьвятыні беларускага народу — копіі крыжа сьвятой Еўфрасіньні Полацкай.*



*Мастак М.Кузьміч падчас працы над крыжам*

Вялікае мноства вернікаў сабралася, каб у глыбокай пашане схіліцца перад гэтай нацыянальнай рэліквіяй. Урачыстую літургію з нагоды асьвячэньня і першага пакланеньня адноўленаму крыжу сьвятой Еўфрасіньні адпраўляў Патрыяршы Экзарх усёй Беларусі, мітрапаліт Менскі і Слуцкі Філарэт. Пасьля літургіі ўсе вернікі мелі магчымасьць прыкласьціся да сьвятыні. Тры гадзіны да крыжа бясконцым патокам ішлі вернікі — гараджане і прыезджыя, маленькія дзеткі і хворыя людзі, якіх вялі блізкія.

Пасьля асьвячэньня ў Берасьці крыж дастаўлены ў Менск, дзе будзе знаходзіцца да канца верасьня. А 27 верасьня, на сьвята Ўзвышэньня Крыжа Гасподняга (паводле юльянскага календару), крыж сьвятой Еўфрасіньні будзе ўрачыста ўнесены ў храм Спаса ў Полацку, дзе ён і павінен знаходзіцца паводле волі заступніцы беларускага народу сьвятой Еўфрасіньні Полацкай.

Праца па аднаўленьні нацыянальнай сьвятыні, распачатая па ініцыятыве Згуртаваньня беларусаў сьвету "Бацькаўшчына", у свой час атрымала фінансавую падтрымку з боку асобных беларускіх прадпрымальнікаў, а потым была ўзята пад апеку Расейскай Праваслаўнай Царквы.

Пяць гадоў давялося берасьцейскаму майстру-эмальеру Міколу Кузьмічу працаваць над стварэньнем дакладнай копіі крыжа, загадкавае зьнікненьне якога з Беларусі перад фашысцкай акупацыяй краіны шмат хто лічыць прычынай духоўнага заняпаду і ўсіх іншых бедаў нашага народу. Каб выканаць гэтую складаную ювелірную працу, мастаку давялося азнаёміцца з усёй літаратурай пра крыж сьвятой Еўфрасіньні, дасканальна вывучыць усе фотаздымкі і апісаньні крыжа. Такую працу нельга было выканаць без асаблівага духоўнага натхненьня, веры ў адраджэньне свайго народу. Таму Мікола Кузьміч, калі зьявілася магчымасьць, зьдзейсьніў паломніцтва ў Сьвятую Зямлю да Гроба Гасподняга.

За асаблівыя заслугі перад Царквой таленавіты мастак з Берасьця, які рызыкнуў узяцца і давесьці да завяршэньня адказную працу па аднаўленьні крыжа Еўфрасіньні Полацкай, атрымаў з рук мітрапаліта Філарэта высокую царкоўную ўзнагароду — ордэн сьвятога Ўладзіміра.

Як вядома, славуты крыж, дакладную копію якога стварыў Мікола Кузьміч, быў зроблены полацкім майстрам Лазарам Богшам на заказ князёўны-ігуменьні Еўфрасіньні Полацкай у 1161 годзе. Як і згубленая рэліквія XI стагоддзя, ягоная сучасная копія зроблена з кіпарысавага дрэва, пакрыта залатымі пласьцінкамі, якія аздоблены каштоўнымі камянямі, арнаментальнымі кампазіцыямі і дваццацьцю абразкамі з выявамі сьвятых. На верхніх канцах крыжа разьмешчаны паясныя выявы Хрыста, Багародзіцы і Яна Хрысьціцеля. У цэнтры ніжняга перакрыжаваньня — чацьвёра евангелістаў, на канцах — арханёлы Гаўрыіл і Міхаіл. Унізе — апекуны сьвятой Еўфрасіньні і яе бацькоў: сьв. Еўфрасіньня Александрыйская, сьвятыя пакутнікі Георгій і Сафія. На адваротным баку крыжа зьмешчаны выявы айцоў Царквы Яна Залатавуснага, Васіля Вялікага, Рыгора Багаслова, апосталаў Пятра і Паўла, а таксама сьвятых Стэфана, Дзьмітрыя і Панцялеймана. Над кожным абразком часткова грэцкімі, часткова славянскімі літарамі зроблены надпіс. У сярэдзіне крыжа знаходзіліся каштоўныя хрысьціянскія рэліквіі: кроплі крыві Ісуса Хрыста, кавалачак Крыжа Гасподняга, драбок каменя ад дамавіны Багародзіцы, часткі мошчаў сьвятых Стэфана і Панцялеймана ды кроў сьвятога Дзьмітрыя.

На крыжы быў зьмешчаны заклён, які абяцаў страшную кару таму, хто скрадзе або аддасьць ці прадасьць сьвятыню: "І хай не выносяць яго з манастыра ніколі, і не прадаюць, не аддаюць. Калі ж не паслухаецца хто і вынясе з манастыра, хай не дапаможа яму сьвяты крыж ніколі ў жыцьці гэтым, ні ў будучым, хай пракляты будзе ён сьвятой жыватворчаю Тройцаю ды сьвятымі айцамі... і хай напаткае яго доля Юды, які прадаў Хрыста. Хто ж насьмеліцца ўчыніць такое... валадар або князь, або біскуп ці ігуменьня, або іншы які чалавек, хай будзе на ім гэты праклён".

Аднак для некаторых уладароў жаданьне займець гэтую сьвятыню было вельмі моцным нават не зважаючы на заклён. Ужо на мяжы XII-XIII стагоддзяў крыж Лазара Богшы вывезьлі з Полацка смаленскія князі, у якіх ён захоўваўся да 1514 году. У тым годзе Смаленск захапілі войскі маскоўскага князя Васіля III і крыж трапіў у Маскву.

У 1563 годзе цар Іван Жахлівы пайшоў вайной на Літву і перад самай аблогай Полацка загадаў вярнуць сьвятыню на ра-

Працяг на стар.9

# 480 гадоў першай беларускай кнізе



*Тытульны ліст кнігі "Псалтыр", 1517 г.*

Сёлета споўнілася 480 гадоў з часу выхаду ў сьвет першай беларускай друкаванай кнігі. 6 жніўня 1517 году славуты першадрукар з Полацку Францыск Скарына выдаў у Празе кнігу "Псалтыр", якая ўваходзіць у склад 3-га разьдзелу Старога запавету Бібліі. Гэтая кніга стала першай друкаванай кнігай ня толькі ў Беларусі, але і ва ўсёй Усходняй Еўропе. Францыск Скарына невыпадкова пачаў сваю друкарскую дзейнасьць менавіта з гэтай кнігі — славяне здавён выкарыстоўвалі "Псалтыр", у якім сабраны 150 псальмаў цара Давыда, для навучаньня пісьму. Першадрукар высока цаніў значэньне гэтай кнігі для людзей: "...Детем малым початок всякое доброе науки, дорослым помножение в науце, мужем моцное утверьжение".

Мова ў кнізе "Псалтыр" — царкоўна-славянская беларускай рэдакцыі.

Да нашага часу захавалася толькі 2 асобнікі гэтага першага скарынавага выданьня. Абодва яны сёньня знаходзяцца ў Расеі.

# На шляху апостальскага служэньня



Айцец Віктар Данілаў нарадзіўся 20 ліпеня 1927 году ў г.Яраслаўлі (Расея). У 1948 годзе, будучы студэнтам 1-га курсу Яраслаўскага педагагічнага інстытуту, ён быў абвінавачаны ў антысавецкай агітацыі за свае крытычныя выказваньні супраць Сталіна, за што атрымаў 10 гадоў асобых палітычных лагероў. Адбываць заключэньне Віктару Данілаву давялося ў г.Інта Комі АССР. У 1951 годзе ён зноў быў арыштаваны па падазрэньні ў падрыхтоўцы ўцёкаў з лагеру. Сьледчым даказаць гэта не ўдалося, але тэрмін зьняволеньня для яго быў павялічаны яшчэ на 10 гадоў. У 1955 годзе пасьля сямі з паловай гадоў лагероў яго вызвалілі па амністыі. Пазьней ён быў цалкам рэабілітаваны. Пасьля выхаду на волю Віктар Данілаў аднавіў вучобу ў Яраслаўскім пэдінстытуце, які скончыў у 1959 годзе па сьпецыяльнасьці гісторыя і асновы вытворчасьці.

Пасьля выхаду на волю ён увесь час знаходзіўся пад наглядам КДБ, шматразова перасьледаваўся. Яму адмовілі ў прыёме ў асьпірантуру, на яго пісалі даносы, не давалі магчымасьці ўладкавацца на працу, КДБ неадночы рабіла ў яго вобыскі.

У 1963 г. Віктар Данілаў скончыў Маскоўскі фінансава-эканамічны тэхнікум, дзе атрымаў сьпецыяльнасьць эканаміст-фінансіст.

З 1976 году ён жыве ў Беларусі ў Горадні.

У 1970-х гадах, калі Грэка-Каталіцкая Царква ў СССР знаходзілася ў падпольлі, Віктар Данілаў праз наладжаную падпольную структуру Царквы атрымаў тэалагічную адукацыю, а ў 1976 годзе ён быў высьвячаны на сьвятара. Да 1994 году а. Віктар займаўся місіянерскай дзейнасьцю, перакладамі на расейскую мовуданаможнай рэлігійнай літаратуры для Рыжскай духоўнай семінарыі.

Пасьля выхаду Царквы з вымушанага падпольля стала магчымым афіцыйнае прызначэньне для душпастырскай дзейнасьці. У 1994 годзе царкоўнымі ўладамі айцец Віктар Данілаў быў прызначаны выконваць душпастырскія абавязкі параха Гарадзенскай грэка-каталіцкай парафіі Маці Божай Фацімскай.

Айцец Віктар жанаты, мае дачку і двух унукаў.

Айцом Віктарам Данілавым напісана шмат прац рэлігійна-багаслоўскага характару. Асноўныя з іх (на расейскай мове): "Мой шлях да Бога і да Каталіцкай Царквы", "У пошуках ісьціны", "Сектанты", "Тэалогія перажываньня", "Пра некаторыя асаблівасьці каталіцкага веравызнаньня хрысьціянства і яго ўплыў на гісторыю Заходняй Еўропы", "Гісторыя пранікненьня і распаўсюджваньня хрысьціянства ў рускіх землях да 1917 г.", "Казаньні на евангельскія тэмы".

*Прапануем увазе чытачоў інтэрв'ю з айцом Віктарам Данілавым.*

***— Як Вы ў той складаны час прыйшлі да пазнаньня Бога?***

— Я быў хрышчаны яшчэ ў маленстве. З юнацтва мяне цікавіла пытаньне пра сэнс чалавечага жыцьця. На гэтае асноўнае пытаньне майго жыцьця я атрымаў адказ падчас знаходжаньня ў лагеры. Гэтаму спрыялі пэўныя ўмовы, што былі ў лагеры: там знаходзіліся людзі розных нацыянальнасьцяў, рэлігіяў і палітычных поглядаў. На невялікай тэрыторыі зоны была сканцэнтравана вялікая колькасьць людзей. Гэтыя сьпецыфічныя ўмовы абвастралі разуменьне жыцьця. Трагізм майго лёсу дапамог мне асэнсаваць уласную бездапаможнасьць і зьвярнуцца да Бога. Мой жыцьцёвы вопыт, роздумы на філасофскія і багаслоўскія тэмы, малітва прывялі мяне да асабістага перажываньня стасункаў з Богам, да асэнсаваньня Ягонага існаваньня і прыняцьця каталіцтва. Да яго я прыйшоў менавіта ў лагеры.

***— Агульнапрынята, што рускі чалавек павінен быць праваслаўным...***

— Прызнаюся, што выбар канфесіі зьявіўся для мяне сур'ёзным выпрабаваньнем. Асноўнай падставаю для майго выбару былі мае роздумы і набытыя веды. Існуюць крытэрыі, якія вызначаюць праўдзівасьць Царквы. Хрыстос стварыў толькі адну Царкву, і таму праўдзівая Царква можа быць толькі адна. Яна павінна быць заснавана на апостальскай пераемнасьці, гэта значыць на апостале Пятру. Праўдзівая Царква мусіць быць няспыннай у сваім існаваньні. У гэтай сувязі, мне цяжка лічыць розныя пратэстанцкія напрамкі праўдзівымі, бо яны бяруць свой пачатак не з апостальскіх часоў.

Найбольш цяжкім для мяне быў выбар паміж праваслаўем і каталіцтвам. Калі я больш уважліва прыглядзеўся да праваслаўя, я не пабачыў дастатковых пацьверджаньняў праўдзівасьці гэтай канфесіі: Праваслаўных Цэркваў не адна, а шмат. Асобныя з іх ня проста варагуюць паміж сабой, але і лічаць адна адну некананічнымі Цэрквамі як, напрыклад, Руская Праваслаўная Царква Маскоўскага Патрыярхату і РПЦ (за мяжой), Маскоўскі і Кіеўскі Патрыярхаты, розныя аўтакефальныя Цэрквы. Усе яны не вызнаюць Рымскіх Архірэяў як пераемнікаў апостала Пятра, а таксама не зьяўляюцца бесьперапыннымі ў сваім існаваньні, таму што нават самыя старажытныя з іх бяруць свой пачатак з расколу 1054 году. Толькі ў Каталіцкай Царкве я адчуў паўнату хрысьціянства, ва ўсіх іншых канфесіях я пабачыў толькі фрагментарнасьць.

***— Але Ваш выбар быў усё ж на карысьць візантыйскага абраду. Чаму?***

— Так, я зьяўляюся каталікам, які практыкуе ўсходні абрад. Візантыйскі абрад найбольш адпавядае культурным традыцыям і ментальнасьці ўсходніх славянаў. Русь прыняла хрысьціянства ў 988 г., калі Царква была адзінай і менавіта ў выглядзе каталіцтва ўсходняга абраду. Мы, грэка-каталікі, зьяўляемся спадкаемцамі той Адзінай Сьвятой Паўсюднай Апостальскай Царквы.

***— Якімі Вам бачацца перспектывы хрысьціянства ва Ўсходняй Еўропе?***

— Паўнавартаснае хрысьціянства сярод славянаў Усходняй Еўропы я бачу не інакш, як каталіцкім, у еднасьці з Апостальскім Пасадам. Але, напэўна, гэта будзе ня хутка. Усё ж я ўпэўнены, што Царква ўрэшце рэшт стане адзінай. Каб зьядналіся Цэрквы, неабходна бальшая рэлігійная сьвядомасьць. У нас жа пераважае бездухоўнасьць, цемрашальства і неадуканасьць. Шмат у чым гэта залежыць ад пазіцыі ерархаў Маскоўскага Патрыярхату РПЦ і палітыкаў, якім выгадна мець вузканацыянальную прыдворную і паслухмяную Царкву.

*З нагоды 70-годдзя айца Віктара Данілава рэдакцыя "Царквы" шчыра віншуе яго з юбілеем, выказвае сваю павагу і захапленьне ягонай духоўнай сілай і хрысьціянскай мужнасьцю на шляху складанага апостальскага служэньня.*

# 70-гадовы юбілей айца Віктара Данілава



*Горадня, 20.07.97. 70-гадовы юбіляр а. Віктар Данілаў прымае віншаваньні*



*Горадня, 20.07.97. Апостальскі візітатар архімандрыт Сяргей Гаек уручае а. Віктару Данілаву памятны крыж*

20 ліпеня Гарадзенская грэка-каталіцкая парафія Маці Божай Фацімскай віншавала свайго параха айца Віктара Данілава з 70-гадовым юбілеем. З нагоды юбілею параха нядзельная служба ў парафіі набыла асаблівую ўрачыстасьць. Павіншаваць юбіляра прыехала шмат гасьцей: Апостальскі візітатар для грэка-католікаў Беларусі архімандрыт Сяргей Гаек, дэкан протапрасьвітар Ян Матусевіч, душпастыр для грэка-католікаў Берасьцейскай вобласьці айцец Ігар Кандрацьеў, парах Менскай парафіі Маці Божай Нястомнай Дапамогі айцец Казімір Ляховіч, айцец Роберт Крывіцкі з Рыму, беларускія грэка-каталіцкія дыяканы і іншыя госьці. Падчас Літургіі юбіляр айцец Віктар Данілаў атрымаў з рук Апостальскага візітатара айца Сяргея Гаека высокую ўзнагароду за сваю душпастырскую дзейнасьць ад Кангрэгацыі Ўсходніх Цэркваў — крыж з упрыгожаньнямі. Ён прыняў таксама шматлікія віншаваньні і падарункі ад сваіх парафіянаў і гасьцей парафіі.

Пасьля Літургіі гарадзенскімі парафіянамі быў наладжаны сьвяточны абед у гонар айца Віктара, падчас якога гучалі сьпевы і ўзнімаліся тосты за юбіляра.

На ўрачыстасьцях у Горадні было нямала маладых грэка-католікаў, сярод іх — тры дыяканы, што не магло ня цешыць сьвятара, які шмат гадоў аддаў хрысьціянскаму служэньню.

# 50-годдзе Беларускай каталіцкай місіі ў Вялікабрытаніі

Сёлета споўнілася 50 гадоў з часу заснаваньня Беларускай каталіцкай місіі ў Лондане. Яе дзейнасьцю сёньня кіруе протаерэй айцец Аляксандр Надсан, які зьяўляецца Апостальскім візітатарам для беларусаў-католікаў абодвух абрадаў у замежжы.

Каб адзначыць гэты юбілей, які праходзіў з 6 па 13 жніўня, у Лондан прыехалі грэка-каталіцкія сьвятары і дыяканы з Беларусі, а таксама Апостальскі візітатар для грэка-католікаў у Беларусі айцец архімандрыт Сяргей Гаек. Разам са сьвяткаваньнем юбілею ў гэты час адбываліся сьвятарскія канферэнцыі, на якіх аналізаваўся сучасны стан Грэка-Каталіцкай Царквы ў Беларусі, абмяркоўваліся пытаньні, зьвязаныя з адукацыяй моладзі, чыталіся даклады па тэалогіі.



У першыя пасьляваенныя гады, калі шмат беларусаў апынулася ў выгнаньні ў розных краінах сьвету, з дазволу Апостальскай Сталіцы і краёвых уладаў пачалі ўтварацца беларускія каталіцкія місіі. Такія рэлігійныя асяродкі ўтварыліся ў Англіі, Францыі, Нямеччыне, Бельгіі. Заснавальнікам і першым кіраўніком місіі ў Лондане быў Часлаў Сіповіч, які ў пасьляваенны час стаў першым каталіцкім біскупам-беларусам. Сёньня ў беларускай каталіцкай місіі ў Лондане, акрамя айца Аляксандра Надсана, застаўся толькі адзін сьвятар — айцец Кастусь Маскалік, але і ён ужо ў вельмі паважным узросьце. У Лондан пастаянна прыязджае на вучобу моладзь з Беларусі, а таксама навукоўцы.

На працягу ўсяго свайго існаваньня дзейнасьць Беларускай каталіцкай місіі ў Лондане вызначалася вялікай душпастырскай, харытатыўнай і грамадзка-культурнай дзейнасьцю. З дапамогай Згуртаваньня беларусаў Вялікабрытаніі, ахвяраваньняў простых вернікаў, а таксама з фінансавай падтрымкай Апостальскай Сталіцы ў Лондане беларускія каталіцкія сьвятары заснавалі беларускі дом, названы ў гонар сьвятой Дзевы Марыі — Marian House. Там жа была створана невялікая царква сьв. Пятра і Паўла. Пазьней, у 1961 годзе побач з Марыінскім домам была адчынена школа імя сьв. Кірылы Тураўскага, у якой вучыліся беларускія хлопцы незалежна ад іх веравызнаньня. А ў 1971 годзе намаганьнямі айцоў Льва Гарошкі, Язэпа Германовіча, біскупа Часлава Сіповіча тут паўстала беларуская бібліятэка імя Францішка Скарыны з адным з найбагацейшых на Захадзе зборам рэдкіх і каштоўных беларускіх кніг, часопісаў, старадрукаў. Паступова тут склаўся і невялікі беларускі музей.

Пасьля Чарнобыльскай трагедыі, дзякуючы актыўнай дзейнасьці айца Аляксандра Надсана, у Англіі ўтварыўся Камітэт дапамогі ахвярам радыяцыі.

Кіраўніку беларускай каталіцкай місіі ў Лондане айцу Аляксандру Надсану апошнім часам даводзіцца шмат працаваць, езьдзіць па сьвеце для абслугоўваньня беларускай грэка-каталіцкай дыяспары, якая невялікімі асяродкамі раскідана па ўсім сьвеце. Ён плённа працуе над перакладамі літургічных тэкстаў. Гэтыя тэксты атрымалі блаславеньне Апостальскай Сталіцы. Імі на Бацькаўшчыне карыстаецца Беларуская Грэка-Каталіцкая Царква, якая сёньня адраджаецца.

Наша вера, захаваная беларусамі на выгнаньні, дала свае парасткі ў Беларусі. Значыць і ахвярная праца, якую вялі на працягу паўстагоддзя беларускія каталіцкія сьвятары ўсходняга абраду ў далёкім замежжы, не была марнай.

**Ігар Бараноўскі**

## Адноўлена беларуская сьвятыня — крыж сьвятой Еўфрасіньні Полацкай

*Працяг, пачатак на стар.7*

нейшае месца ў царкву Спаса. Аднак палачане не здаліся на міласьць захопніка, і тады Іван Жахлівы загадаў зьнішчыць усё іншавернае насельніцтва. 11 060 сялян, якія схаваліся ад ворага ў полацкім замку, цар раздаў сваім баярам, 50 000 мяшчанаў і шляхты былі адпраўлены ў маскоўскі палон. Тыя, хто адмовіўся служыць маскоўскаму ўладару, разам з жонкамі і дзецьмі доўга сядзелі ў турмах у кайданах, а 665 палонных па загадзе Івана Жахлівага былі забітыя.

У 1579 годзе беларусы адваявалі старажытны Полацк. Аднак неўзабаве, паводле загаду караля Рэчы Паспалітай, царква Спаса, дзе знаходзіўся крыж-сьвятыня, была перададзена ордэну езуітаў. З гэтага часу найкаштоўнейшую рэліквію беларускага народу захоўвалі ў храме-сьвятыні Беларусі — у старажытнай полацкай Сафіі. У 1596 годзе была падпісана Берасьцейская царкоўная Унія. Пераважная большасьць беларускага насельніцтва да гвалтоўнага скасаваньня уніі ў 1839 годзе была уніятамі. На працягу 243 гадоў нашыя продкі-уніяты пільна ахоўвалі і глыбока шанавалі крыж-сьвятыню, што было ня так проста ў тыя цяжкія для нашай Бацькаўшчыны часы. Магнаты і шляхта масава пакідалі свой родны ўсходні абрад і пераходзілі на лацінскі. Разумеючы вялікую каштоўнасьць для вернікаў крыжа сьвятой Еўфрасіньні, на яго пачалі прэтэндаваць езуіты, бо ім тады належаў Спаса-Еўфрасіньнеўскі манастыр. Айцы-езуіты спасылаліся на надпіс, што быў зроблены на крыжы, аднак гэта не дапамагло ім выйграць справу ў судзе, і крыж застаўся ў сьв. Сафіі. Быў у гісторыі выпадак, калі крыж-сьвятыню спрабавалі нават выкрасьці, падклаўшы падробку, але вернікі-уніяты хутка заўважылі падмену і адабралі крыж у выкрадальніка. А ў 1812 годзе, калі Полацк акупавалі войскі Напалеона, каб схаваць крыж ад рабаўнікоў, уніятам давялося замураваць сьвятыню ў нішу сьцяны Сафійскага сабору.

Пасьля скасаваньня царскімі ўладамі Уніі крыж на нейкі час трапіў у Маскву, а затым у Пецярбург, дзе рэліквію аглядаў цар Мікалай I. Існавала небясьпека, што крыж-сьвятыня можа застацца там назаўжды, як гэта сталася з іншымі каштоўнасьцямі беларускага народу. Аднак ахоўны надпіс-заклён, напэўна, дапамог на гэты раз вярнуць сьвятыню на сваё месца ў полацкі храм Спаса. 23 траўня (паводле старога стылю) 1841 году ўрачыстым хросным ходам крыж сьвятой Еўфрасіньні перанесьлі з Сафійскага сабору і паклалі ў кельлі, дзе наша заступніца пражыла свае апошнія гады.

У савецкія часы бальшавікі распачалі наступ на рэлігію і ў 1921 годзе ОГПУ рэквізавала крыж-сьвятыню, ён трапіў у полацкі фінаддзел. Толькі дзякуючы намаганьням вядомага беларускага дзеяча Вацлава Ластоўскага, ён быў адшуканы і забраны адтуль у Менск, у Беларускі дзяржаўны музей. Дзеля ўмацаваньня свайго рэжыму бальшавікі ўвесь час тайна ад народу распрадавалі нацыянальныя каштоўнасьці на Захад. Крыж ледзь не напаткаў такі самы лёс. З канца 20-х гадоў бальшавікі, маючы страх перад Захадам, вырашылі перанесьці сталіцу Беларусі ў Магілёў. І хоць гэты горад сталіцай так і не пасьпеў стаць, крыж з 1929 году і да канца чэрвеня 1941 году знаходзіўся ўжо ў музеі Магілёва. Далейшы лёс яго так і застаецца пакуль таямніцай. Крыж-сьвятыню шукаюць праз Інтэрпол як на Захадзе, так і на Усходзе.

Сёньняшняе вяртаньне вернікам крыжа сьвятой Еўфрасіньні Полацкай, няхай усяго толькі яго дакладнай копіі, ёсьць сапраўдная вялікая радасьць і шчасьце для беларусаў, як праваслаўных, так і грэка-католікаў ды рыма-католікаў, якія ў аднолькавай ступені маюць права лічыць яго сваёй сьвятыняй. Магчыма, вяртаньне гэтай сьвятыні дапаможа беларусам годна перажыць усе нягоды і адрадзіць веру.

**Ігар Бараноўскі**

# Парафіяльны юбілей у Менску



5 ліпеня Менская парафія Маці Божай Нястомнай Дапамогі сьвяткавала свой першы юбілей — 5-годдзе з дня заснаваньня. Гэта быў ня толькі юбілей, але і адначасна храмавае сьвята парафіі (дзень ушанаваньня іконы Маці Божай Нястомнай Дапамогі — 27 чэрвеня). Сьвята адбывалася ў рыма-каталіцкім касьцёле сьв. Сымона і Алены, што на плошчы Незалежнасьці ў Менску.

Урачыстасьць пачалася з сустрэчы Апостальскага нунцыя ў Беларусі архібіскупа Дамініка Грушоўскага, якога радасна, са сьпевамі віталі пробашч і духавенства, маленькія і дарослыя вернікі парафіі. У сьвяточным набажэнстве прынялі ўдзел архібіскуп Дамінік Грушоўскі, Апостальскі візітатар для грэка-католікаў Беларусі архімандрыт Сяргей Гаек, дэкан протапрасьвітар Ян Матусевіч, пробашч рыма-каталіцкай парафіі сьв. Сымона і Алены ксёндз Уладзіслаў Завальнюк і іншыя сьвятары і дыяканы.



Менск, 5 ліпеня 1997 году. Вернікі вітаюць Апостальскага нунцыя архібіскупа Дамініка Грушоўскага



Менск, 5 ліпеня 1997 году. Падчас урачыстай літургіі

Сьвятая Літургія прайшла вельмі ўрачыста пад сьпевы парафіяльнага хору, якім кіравала сп-ня Галіна Смоляк, а таксама славутага мужчынскага хору "Унія".

Пасьля ўрачыстай літургіі архібіскуп Дамінік Грушоўскі павіншаваў усіх вернікаў са сьвятам і яшчэ раз падкрэсьліў духоўную каштоўнасьць належнасьці да адзінства паўсюднай каталіцкай Царквы і неабходнасьць захаваньня ўсходняй традыцыі.

Пасьля сьвятой Літургіі адбыўся хросны ход, а затым быў адслужаны малебен за беларускі народ.

Айцец Казімір шчыра падзякаваў усяму прысутнаму духавенству, а асабліва — пробашчу парафіі сьв. Сымона і Алены кс. Уладзіславу Завальнюку, які заўжды дапамагае вырашаць цяжкасьці, што ўзьнікаюць у грэка-католікаў. Ён выказаў спадзяваньне, што ў хуткім часе менская парафія Маці Божай Нястомнай Дапамогі будзе мець свой уласны храм, і тады гэта здыме шмат цяжкасьцяў і праблемаў, якія маюць вернікі і духавенства.

Напрыканцы сьвята вернікаў яшчэ раз зачаравалі цудоўныя духоўныя сьпевы хору "Унія".

Душы вернікаў радаваліся, хацелася яшчэ і яшчэ праслаўляць Найсьвятую Уладарку нашу Багародзіцу, прыносіць ёй малітвы і прасіць ейнай апекі.

Маці Божая Нястомнай Дапамогі, малі Бога нястомна за нас, грэшных.

**Лідзія Баразьнёнак**

*г.Менск*

# Над магілай Натальлі Арсеньневай

25 ліпеня 1997 году ў шпіталі Рочэстар, што ў Нью-Ёрку (ЗША), а 5-й гадзіне раніцы перастала біцца сэрца нашае славутае паэткі Натальлі Арсеньневай. Жыла яна на працягу амаль цэлага 20-га стагоддзя: нарадзілася 20 верасьня 1902 году і дажыла да трох год перад канцом стагоддзя. Пражыла яна дзьве Сусьветныя вайны, бежанства, савецкія турмы, ссылку ў Казахстан і памерла на эміграцыі. У суме пакінула яна сына Уладзіміра, унукаў Натальлю і Пятра, яго жонку і двое праўнукаў.

28 ліпеня ў апошняе падарожжа на могільнік у Рачэстары, дзе лягла яна на вечны супачын побач свайго мужа генерала Францішка Кушаля пад мануменатльным помнікам крыжа, праводзілі яе з бел-чырвона-белым сьцягам і букетамі бел-чырвона-белых кветак сваякі паэткі і прадстаўнікі беларускай дыяспары ў Амерыцы. У памяць пра Натальлю Арсеньневу ў касьцёле была адпраўлена сьвятая Літургія, над магілай гучалі сьпевы "Вечная памяць", "Магутны Божа", гаварыліся памінальныя прамовы, дэкламаваліся вершы паэткі.

Бог, натура, кон надзялілі Натальлю Арсеньневу вялікім дарам: паэтычным геніем, чуткім сэрцам, багатай душой і доўгім жыцьцём.

Славутая беларуская паэтка нарадзілася ў Баку, у сям'і расейскага служачага Арсеньнева, які па жаночай лініі мае сваяцкія сувязі з Пермантавым. На літаратурнай вечарыне ў Канадзе ў 1969 годзе паэтка казала пра сябе так: "Жыць сьведама я пачала ў Вільні, якую я і лічу сваёй бацькаўшчынай, якую люблю і па якой я найбольш сумую". У гэтай сталіцы старажытнай, а пасьля Заходняй Беларусі — Вільні, у Віленскай беларускай гімназіі пад уплывам і кіраўніцтвам перадусім Максіма Гарэцкага, разьвіваўся, рос і мужнеў ейны паэтычны геній, фармавалася беларуская нацыянальная сьведамасьць і патрыятызм.

Сваёй творчасьцю Н.Арсеньнева зрабіла вялікі ўклад у беларускую і сусьветную літаратуру. Шмат вершаў Натальлі Арсеньневай пакладзены на музыку. Да найвядомейшых песьняў належаць рэлігійны гімн "Магутны Божа", жаўнерскія "Беларусь, наша маці-краіна" і "У гушчарах затканых імглою".

Апрача літаратурнай дзейнасьці Натальля Арсеньнева побач свайго мужа генерала Францішка Кушаля была грамадзкай, палітычнай ды асьветна-культурнай дзеячкай.

Сваімі натхняльнымі песьнямі і вершамі паэтка варушыла, будзіла, уздымала да вышыняў душы, перадусім маладога ды старэйшага пакаленьня беларускага грамадзтва за мяжой, а цяпер і ў Беларусі. З яе гімнам "Прысяга" кожнай раніцы на працягу другой паловы стагоддзя беларускія жаўнеры і скаўты ўзьнімалі бел-чырвона-белы сьцяг. Цудоўным гімнам паэткі "Магутны Божа" завяршаюцца набажэнствы ў беларускіх храмах. Цяпер гэты велічны рэлігійны гімн пяе ня толькі беларускае замежжа, але й уся Беларусь. Словы гімну "Магутны Божа" выбітыя на металёвай таблíцы на Беларускім памятным Крыжы ў Мідлендзе (Канада), а верш паэткі "Крыж" ахаплівае асьвячэньне гэтага манументу. Пяру Н.Арсеньневай належаць некалькі беларускіх тэкстаў малітваў. Яна перакладала сучаснай беларускай мовай малітву Францішка Скарыны з "Малой падарожнай кніжкі" (Вільня, 1522), а таксама пераклала з ангельскай малітву да канадыйскіх пакутнікаў. Можа, мы дакладна не здаем сабе справы з таго, як духова былі бы мы бяднейшыя, калі б у нас не было натхняльнай паэзіі Натальлі Арсеньневай. Духоўнае багацьце, якім яна нас надзяліла, застанецца з беларускім народам назаўсёды.

З любоўю і пашанай схіляем нашыя галовы перад тваім духам і тваёй магілай, пясьнярка!

*(Паводле камунікату № 4 за жнівень 1997 году Каардынацыйнага камітэту беларусаў Канады, які падрыхтаваны д-рам Раісай Жук-Грышкевіч)*

# 9-ае паломніцтва да беларускага памятнага крыжа ў Канадзе



Для адзначэньня тысячагоддзя хрысьціянства ў Беларусі, у прошчы канадыйскіх пакутнікаў, што завецца ***Martyrs' Shrine*** ў Мідлендзе (Канада), быў узьнесены і асьвячаны ў 1988 годзе Беларускі памятны Крыж. З таго часу кожны год адбываюцца да яго паломніцтвы.

Летась, 1 чэрвеня, у часе 8-га паломніцтва, быў асьвячаны ўзьнесены ля Беларускага Крыжа манумент з мемарыяльнай дошкай "Памяці ахвяр камуністычнага тэрору ў Беларусі". Урачыстасьці асьвячэньня Беларускага Крыжа і мемарыяльнага манументу праводзіў айцец Аляксандр Надсан, Апостальскі візітатар для беларусаў-каталікоў замежжа. Ён неаднойчы апекаваўся паломнікамі да Беларускага Крыжа ў Канадзе.

Сёлета, 28 чэрвеня 1997 году, адбылося 9-ае паломніцтва да беларускага сьвятога месца ў Канадзе. Гэтым разам вернікамі апекаваліся сьвятары з Сент-Катэрынс (Канада): ераманах Бенедыкт, які два гады быў у Полацку і дасканала валодае беларускай мовай, ды айцец Багдан. З імі прыбылі ў паломніцтва і манахі з манастыра сьв. Антонія і Тэадозія ў Сент-Катэрынс — браты Ігар і Андрэй.

У 10.30 раніцы ў Фільён Цэнтры пачалася сьв. Літургія, прысьвечаная памяці памерлага летась дырэктара прошчы айца Джэймса Фарэла і сьветлай памяці: Янка Сурвіла, Морыс Мэрдак, Міхась Махнач, Леакадыя Бычко, Том Кэлі, Еўдакія Жызьнеўская, Марыя Каладзейская, Баляслаў Лішчонак, Галена Гарадэцкая і Вінцэнт Жук-Грышкевіч, якія шмат разоў былі паломнікамі да Беларускага Крыжа.

Адпраўляў набажэнства ў беларускай мове ераманах Бенедыкт у саслужэньні айца Багдана, які служыў па-ангельску. Падчас літургіі пяяў па-беларуску маладзенькі манах Ігар. Набажэнства ў часе нашых паломніцтваў адбываюцца часта ў дзьвюх мовах, бо сярод паломнікаў заўсёды ёсьць радавітыя канадыйцы, якія не разумеюць беларускай мовы. Апостальскае пасланьне Паўла да хрысьціянаў Тэсалонікі пра другі прыход Хрыста і ўваскрашэньне памерлых чытала ў беларускай мове Раіса Жук-Грышкевіч, а ў ангельскай — Маргарэт Кэлі.

У казаньні па-беларуску а. Бенедыкт расказваў, як паміраючы сьвятар пацяшаў сяброў, што сумавалі, растаючыся з ім на вякі. Ён сказаў ім: "Не сумуйце, кожны раз, як будзеце мяне ўспамінаць — я буду з вамі".

Напрыканцы Боскай Літургіі айцец Бенедыкт дзякаваў арганізатарам за запросіны іх быць удзельнікамі паломніцтва.

Працэсія з крыжам і беларускім бел-чырвона-белым сьцягам падымалася на ўзгорак да Беларускага Крыжа і манументу Памяці ахвяраў камуністычнага тэрору ў Беларусі. Здалёк разьвіваліся на ветры, на тле зелені хвояў і сінявы неба бел-чырвона-белы беларускі і з кляновым лістком — канадыйскі сьцягі. Перад манументам Пакутнікам Беларусі гарэлі ў чырвоных лямпіёнах — як сімвал вечнага жыцьця і вечнай памяці — сьвечкі. У часе працэсіі паломнікі пад кіраўніцтвам айца Багдана адпраўлялі ружанец.



*Беларускі памятны крыж у Мідлендзе (Канада)*

Перад Беларускім памятным комплексам айцец Бенедыкт блаславіў прысутных, дзякаваў Богу, што дазволіў, каб адбылося гэтае паломніцтва, дзякаваў за магчымасьць быць удзельнікамі гэтых урачыстасьцяў.

Вуснамі Раісы Жук-Грышкевіч уздымалася да Ўсемагутнага Бога малітва:

*— За Богам сьцеражоную краіну Беларусь і ўвесь беларускі народ, за стойкасьць у веры, мужнасьць у выпрабаваньнях і вернасьць свайму народу ўсіх нас — маліся...*

*— Каб Господ Бог захаваў нашу краіну Беларусь свабоднай і ў супакоі...*

*— Каб беларускаму народу і ўсім нам выбавіцца ад усякіх бедаў, суму, гневу і недастатку...*

*— Каб Господ міласьцівы прыняў нашыя малітвы і зьмілаваўся над беларускім народам і намі ўсімі.*

*— Заступіся, зжалься, збаў і сьцеражы нас, Божа, ласкаю Тваёю...*

Паніхіду — кароткае набажэнства за памерлых — адпраўлялі айцы Бенедыкт і Багдан. Яны маліліся па-беларуску і па-ангельску за слугаў Божых:

*— за сотні тысячаў нявінных ахвяраў, расстраляных у Курапатах, Чалюскінскім парку ды іншых месцах Беларусі;*

*— за сотні тысячаў беларускіх навукоўцаў, настаўнікаў, пісьменьнікаў, паэтаў, сялянаў і работнікаў, замучаных у савецкіх астрогах, ссыльных лагерах Варкуты, Калымы і Салаўкоў;*

*— за ўсіх верных сыноў і дочак беларускага народу, якія цярпелі перасьледы і мучэньні ад ворагаў за тое, што яны жадалі лепшае долі, пашаны чалавечай ды нацыянальнай годнасьці свайму народу;*

*— за слугаў Божых — сьвятой памяці дырэктара прошчы і памерлых паломнікаў да Беларускага памятнага манументу.*

Як прысяга і зарок прагучаў пад кіраўніцтвам Міколы Ганька жалобны гімн "Сьпі пад курганам герояў".

Каардынатар паломніцтва Раіса Жук-Грышкевіч дзякавала ўсім, што спрычыніліся да зьдзяйсьненьня гэтай урачыстай падзеі — паломніцтва. Дзякавала перадусім дырэктару шрайну айцу Боўдуа, сьвятарам: ераманаху Бенедыкту і айцу Багдану — за набажэнства, брату-манаху Ігару — за сьпевы падчас набажэнстваў, манаху Андрэю і ўсім іншым паломнікам — за прысутнасьць і малітвы.

Перадавала прывітаньні й шкадаваньні, што ня можа быць з намі нашая слаўная паэтка Натальля Арсеньнева, словы гімну якой "Магутны Божа" пяе цяпер ня толькі беларускае замежжа, але й уся Беларусь. Паэтка была няўтомнай паломніцай да Беларускага Крыжа.

Прывітаньні і шкадаваньні, што ня могуць быць разам з намі перадавалі таксама пісьменьнік Кастусь Акула з Таронта, Ванда Махнач ды доктар Вітаўт і Вера Рамукі з Чыкага.

Гімнам "Магутны Божа" закончылася ўрачыстая частка паломніцтва. Пасьля агульнага здымку ў цені дрэваў, што баранілі нас ад сьпёкі, пад няспынны хор кагарак, паломнікі разлажыліся за агульным сталом на палудзень. А там, дай Божа, зорак прыждаці й зноў тут спаткацца.

**Раіса Жук-Грышкевіч**

*г. Бэры, Канада*




Музычнае мастацтва Уніяцкай Царквы і па сёньняшні дзень у значнай ступені застаецца terra incognita для гісторыкаў музыкі. Як здаецца, не рабілася спроб акрэсьліць асноўныя складнікі музычнага афармленьня ўніяцкіх набажэнстваў, вылучыць яго сьпецыфіку на фоне як праваслаўнай, так і каталіцкай традыцый. Таму здаецца неабходным акрэсьліць, хоць і досыць схематычна, галоўныя накірункі музычна-літургічнай практыкі каталікоў грэцкага абраду.

Вядома, што так званыя заходнерускія землі (Украіна і Беларусь) значна раней, чым Маскоўская Русь, сутыкнуліся з моцным узьдзеяньнем заходнееўрапейскай культуры. Знаёмства з еўрапейскім, найперш каталіцкім музычным мастацтвам, актыўна ўплывала і на музыку заходнерускай Праваслаўнай Царквы. Тэндэнцыі да запазычаньня найбольш важных дасягненьняў Еўропы ў сферы музычнай тэорыі і практыкі яскрава праявіліся ўжо ў XVI ст. Так, у Супрасьльскім манастыры ўпершыню ў праваслаўнай традыцыі быў створаны аб'ёмны Ірмалой (1598-1601 гг.), цалкам запісаны не традыцыйнымі "крукамі" (старажытны нелінейны тып натацыі), а еўрапейскімі квадратнымі нотамі; яшчэ ў канцы XVI ст. Львоўскае праваслаўнае брацтва, рэгулу якога прынялі Берасьцейскае (1592) і Магілёўскае (1597) брацтвы, зьвярталася да канстанцінопальскага патрыярха Мялеція Пігаса з пытаньнем адносна таго, ці можна ўводзіць у цэрквах, як гэта робяць каталікі, фігуральны сьпеў і партэсную музыку, а таксама арганы. Мялецій дазволіў любыя "прыстойныя" сьпевы, аднак забараніў, спасылаючыся на словы Юсьціна-мучаніка, "шум і гудзеньне бяздушных арганаў".

Найбольш актыўна і пасьлядоўна засвойвала дасягненьні еўрапескай культуры Уніяцкая Царква Беларусі і Украіны. Вядомы дасьледчык усходняй філасофска-тэалагічнай думкі Г.Флароўскі характаразаваў унію наступнымі словамі: "Унія была хутчэй актам культурна-палітычнага, чым рэлігійнага самавызначэньня. Не рэлігійныя і не дагматычныя матывы былі вырашальнымі ў адступніцтве ерархаў. І ёсьць некаторая псіхалагічная праўда ў сьцьвярджэньнях першых уніятаў, што яны "не зьмянілі веру"... Унія была самаўключэньнем у заходнюю традыцыю. Гэта было менавіта рэлігійна-культурнае заходніцтва".

Першапачаткова ўніяцкія набажэнствы амаль не адрозьніваліся ад праваслаўных. Дасьледчык богаслужэньня і абрадаў Ф.Хайнацкі прыйшоў да высноў, што да Замойскага сабору Уніяцкай Царквы (1720 г.) уніяцкія літургічныя кнігі, якія выдаваліся ў Львове, Супрасьлі, Уневе, зьместам і структурай не адрозьніваліся ад праваслаўных. І пазьней, у XVIII ст., аднолькавай, як у праваслаўных, так і ўніятаў, заставалася адна з найважнейшых пеўчых кніг усходняй царквы — Актоіх. Найбольшыя зьмены адбыліся ў структуры літургічнага году: на Замойскім саборы была вызначана абмежаваная колькасьць старажытных праваслаўных сьвятых (уніяты сьвяткавалі толькі дні сьв. роўнаапостальнага Уладзіміра, вял.Вольгі, сьвв. мучанікаў Барыса і Глеба, сьвв. Антонія і Феадосія Пячэрскіх); уведзены традыцыйныя каталіцкія сьвяты Цела Хрыстова, Ігнацыя Лаёлы, сьв. Казіміра Польскага, Яна Непамуцэна, пакутаў Багародзіцы і інш.; сьпецыфічнае ўніяцкае сьвята Язафата Кунцэвіча; было дазволена спраўляць так званыя "сухія" (бяз музыкі) літургіі і інш.

Распаўсюджваньню культурных і мастацкіх уплываў Захаду спрыяла і сьпецыфіка выхаваньня кіруючых кадраў Уніяцкай Царквы. Большасьць з іх атрымлівала адукацыю ў каталіцкіх навучальных установах Еўропы. Паводле дэкрэта Паўла V 1615 г. 4 уніяцкія клірыкі маглі займацца за кошт школы ў Грэцкай калегіі ў Рыме; 18 двухгадовых стыпендый для ўніятаў былі заснаваныя ў замежных каталіцкіх калегіях; езуіты саступілі ўніяцкім клірыкам па некалькі месцаў у калегіях Каліша, Пултуска, Нясьвіжа і Бранева, ці Брунсберга. Ордэн базыльян, адзінае манаскае аб'яднаньне Уніяцкай Царквы, сьвядома арыентаваўся на практыку езуітаў, найбольш уплывовага ў XVII-XVIII стст. каталіцкага ордэна.[...] Вядома, выбар езуітаў у якасьці ўзору рэлігійнай дзейнасьці ня мог не адбіцца і на музычным афармленьні богаслужэньняў ва ўніяцкіх цэрквах.

Паступова ў рэлігійным мастацтве Уніяцкай Царквы адбыліся значныя зьмены. У цэрквах сталі ўводзіцца бочныя алтары, у некаторых адсутнічалі іканастасы і царскія вароты. Пасьля сабору 1720 г. у набажэнства сталі часта ўводзіць арган, бо "капэлу сьпевакоў набраць цяжка, а арган упрыгожвае набажэнства і ў найбяднейшым касьцёле". Два арганы — вялікі ў царкве і пазітыў у капліцы манастыра побач з бібліятэкай — належалі Супрасьльскаму манастыру. У 1764 г. у дакументах узгадваецца і мясцовы арганіст Касьцецкі. Два арганы ўпрыгожвалі і набажэнства ў Жыровіцкім базыльянскім манастыры. Адзін з іх, 80-галосны, вылучаўся сваімі памерамі і быў вельмі каштоўны. Ён лічыўся адным з найлепшых арганаў XVII ст. Людзьвіг Клімовіч у 1779 г. пабудаваў арган для менскай царквы сьв. Духа пры базыльянскім манастыры. Іосіф Сямашка, "зьнішчальнік уніі", ганарыўся тым, што дзякуючы яго дзейнасьці да 1837 г. былі прададзеныя ці разабраныя 117 арганаў у Літоўскай епархіі.

Арганы і інструментальныя капэлы ў некаторых уніяцкіх цэрквах існавалі ўжо з XVII ст. Інструментальная капэла Супрасьльскага манастыра была заснавана ў другой палове XVII ст. па загаду мітрапаліта Кіпрыяна Жахоўскага, вялікага аматара аркестравай музыкі. Ліхоўскі адзначае, што сярод сьвятароў Полацкага базыльянскага манастыра, забітых у час знаходжаньня Пятра І у Полацку ў 1705 г., быў і нехта Якуб Кнышэвіч — "рэгенс капэлы, ці музыкі". Капэла жыровіцкіх уніятаў у 1772 г. уключала 2 флейты, фагот, 3 трубы, 4 валторны і "арган на тры мяхі", інакш кажучы, сваім складам цалкам адпавядала тыповым для каталіцкай традыцыі XVIII ст. інструментальным калектывам. Напэўна, прыкладна такая ж капэла ўпрыгожвала сьвяткаваньні ў гонар цудатворнай жыровіцкай іконы ў 1731 г., калі "выдатныя музыканты ігралі на розных інструментах, акампануючы зладжаным галасам сьпевакоў". Усе гэтыя факты сьведчаць пра тое, што адметнай рысай уніяцкіх набажэнстваў, як і ў каталіцкіх касьцёлах, быў удзел у іх аргана ды інструментальных капэл.

М.Дзілецкі, выпускнік Віленскай езуіцкай акадэміі і аўтар славутай "Граматыкі мусікійскай" (сяр. XVII ст.), недвухсэнсоўна ўказвае на існаваньне ў яго часы практыкіператэкстоўкі каталіцкіх літургічных твораў для выкарыстаньня іх ва ўсходнім набажэнстве; ён упікае тых, хто бяз веданьня практыкі лічбаванага баса з памылкамі "превращающе латинския ноты на руския" *(выдзелена намі — Т.Л.)*. Словы Дзілецкага пра стылістычнае адзінства музычнага рэпертуару каталікоў і вернікаў усходняга абраду пацьвярджаюцца некаторымі фактамі музычнага жыцьця Беларусі. Лацінскія няшпоры (3 кампазіцыі), 11 лацінскіх мес, 6 "*Salve Regina*", 2 гімны *"Veni Creator"* адзначаны, напрыклад, у нотным каталогу Жыровіцкага базыльянскага манастыра 1772 г.

Шырока распаўсюджанай зьявай было супрацоўніцтва як сьвятароў, так і музычных калектываў "абодвух абрадаў" (каталіцкага і ўніяцкага) у розных урачыстасьцях. Капэла Віцебскай езуіцкай калегіі рэгулярна, вядома ж, са звыклымі музычнымі творамі, удзельнічала ў набажэнствах уніяцкага манастыра базыльянак, "царквы за Дзьвіной" і яе рэлігійнага брацтва. Калі ў 1730 г. у Віцебску адбылося ўрачыстае пахаваньне харужага віцебскага Гуркі, "урадоўцы ваяводзтваў і ксяндзы бернардзінцы і дамініканцы, якіх ён фундаваў, нясьлі яго праз горад, а перад імі ішоў клір абодвух абрадаў *(clerus utriusque ritus)* у аблачэньні, сьпяваючы пры гуках музыкі". Натуральна, "клір абодвух абрадаў" мог сумесна сьпяваць толькі пры ўмове існаваньня агульных рэлігійных кампазіцый. Прыкладна па той жа схеме, з удзелам "усяго горада са сваімі цэхамі", езуітаў, базыльянаў, сьвятароў са сваімі брацтвамі праходзіла ў 1774 г. у Горадні пахаваньне вялікага гетмана літоўскага Міхала Вішнявецкага. Цырымонія, як і ў падобных езуіцкіх урачыстасьцях, суправаджалася залпамі гармат і ілюмінацыяй.

Несумненна, езуіцкая школьная драма стала прататыпам і вялікай колькасьці пастановак ва ўніяцкіх і праваслаўных школьных тэатрах XVII-XVIII ст. Так, тыповай паводле сюжэту для каталіцкай вучэбнай сцэны можна лічыць жыровіцкую базыльянскую драму "Цыцэрон" з музыкай Б.Зьгірскага (1752). На жаль, яна нам вядо-

мая толькі па назове, як, дарэчы, і амаль усе езуіцкія драмы.

Вельмі папулярнымі сярод грэка-каталікоў сталі так званыя "Багагласьнікі" — зборнікі папулярных рэлігійных песень, складзеныя на ўзор каталіцкіх канцыяналаў. Першы друкаваны Багагласьнік з нотамі быў выдадзены ў Пачаеве ў 1790 г. і з некаторымі зьменамі перавыдаваўся ў 1805, 1825, 1850, 1886, 1894 гг. Ён стаў асновай папулярнага расійскага выданьня 1903 г., прызначанага для праваслаўных царкоўна-прыходскіх школ. У аснове Багагласьніка — песьні як уніяцкіх, так і праваслаўных аўтараў на польскай, рускай і лацінскай мовах. Сярод іх можна назваць Лукаша Длоньскага, Яна Вольскага, Рыгора Івашку, Якуба Кальчыцкага, Яна Мараўскага, Дымітра Ляўкоўскага, Базыля Тарноўскага. Магчыма, што некаторы ўплыў на зьмест Багагласьнікаў аказала чэшская рэфармацыйная традыцыя: паводле вопісу 1645 г., напрыклад, у Супраслі акрамя "чэшскай Бібліі", знаходзіўся чэшскі канцыянал *"Pienie boskich chwal"*. А.Флароўскі лічыць, што хутчэй за ўсё гэта было адно з выданьняў канцыянала Яна Благаслава (XVI ст.).

Рукапісныя Багагласьнікі, а таксама выданьні песень бяз нот складаліся раней за друкаваныя. Так, каля 150 песень запісана ў Супрасьльскім Багагласьніку другой паловы XVIII ст.; каля 20 тэкстаў песень прыводзіць Цімафей Шчуроўскі ў сваёй кніжцы для манахінь-базыльянак і г.д. Напэўна, паводле ўласьцівай любым канцыяналам традыцыі, Багагласьнікі арыентаваліся на найбольш папулярны для свайго часу меладычны матэрыял. Напрыклад, у Супрасьльскім рукапісным Багагласьніку другой паловы XVIII ст., а таксама і ў рукапісных ірмалоях таго ж манастыра 1639 і 1662 гг. запісаны папулярныя лацінскія мелодыі *"Dies irae"* і *"Te Deum laudamus"* з тэкстам "День гневу, день прегорких бед" і "Тебе Бога хвалим".

Прыведзеныя факты недвухсэнсоўна сьведчаць пра тое, што працытаваныя вышэй словы Флароўскага адносна "культурнага заходніцтва" Уніяцкай Царквы добра падыходзяць і для характарыстыкі зьменаў у адносінах уніятаў да рэлігійнай музыкі. У цэлым Грэка-Каталіцкая Царква прытрымлівалася тыповай для каталіцызму XVII-XVIII стст. музычна-літургічнай практыкі. Яе асноўнымі складнікамі былі традыцыйная старажытная манодыя (грыгарыянскі харал для каталікоў і знаменны расьпеў для уніятаў); шматгалосыя харавыя кампазіцыі поліфанічнага ці гамафонна-гарманічнага складу (невыпадкова першыя вядомыя на сёньняшні дзень партэсныя кампазіцыі знойдзены ў Ірмалоі ўніяцкага Супрасьльскага манастыра 1639 г.); удзел у набажэнствах інструментальнай музыкі (арганаў і разнастайных капэл); простыя напаўфальклорныя песьні ў выкананьні вернікаў ("Багагласьнікі").

Вельмі важным накірункам музычнай дзейнасьці ўніятаў было захаваньне старажытных манадыйных традыцый. Зноў жа напрошваецца аналогія з практыкай каталіцызму, калі побач з аўтарскімі музычнымі кампазіцыямі сучаснага эпосе стылю пасьлядоўна і мэтанакіравана культываваўся грыгарыянскі харал у якасьці неад'емнага і найбольш адпаведнага рэлігійнай практыцы музычнага складніка набажэнстваў. Паколькі, як здаецца, пытаньне аб праваслаўных традыцыях у музыцы ўніятаў не закранапася ў літаратуры, спынімся на ім трохі падрабязьней.

З моманту пераходу заходнерускай царквы пад юрысдыкцыю папы Рым стала клапаціўся пра захаваньне старажытнай усходняй абраднасьці ва ўсёй паўнаце. Як вядома, Грэцкая калегія і Кангрэгацыя па справах Усходніх Цэркваў, створаныя ў Рыме яшчэ ў 1573 г., актыўна займаліся рэдагаваньнем і друкаваньнем грэцкіх літургічных кніг. Такім чынам, вывучэньне праваслаўнай літургікі не было чымсьці новым і малавядомым для папскага прэстолу. Паводле булы папы Клеменса VIII 1595 г. уніяты павінны былі захоўваць "усе сьвятыя абрады і цырымоніі, якія ўжываюцца рускімі біскупамі па ўстанаўленьнях сьвятых грэцкіх айцоў, калі яны не супярэчаць ісьцінам і дактрынам каталіцкай веры і не выключаюць аб'яднаньня з Рымскай Царквой". Павел V у 1615 г. выдаў сьпецыяльнае брэве, якое забараняла ўніятам зьмяняць грэцкі рытуал. У 1754 г. Бенедыкт XIV выдаў на грэцкай мове Еўхалагіён (кніга, у якой аб'яднаныя служэбнік і трэбнік), загадаўшы выпраўляць паводле яго ўсе новыя выданьні трэбнікаў як для грэцкай, так і для заходнерускай уніяцкіх цэркваў. Па думцы літургіста А.Хайнацкага, у гэтым Еўхалагіёне "акрамя невялікіх зьмен... усё праваслаўнае".

Працэсы ўніфікацыі і кананізацыі досыць рана закранулі і музычную традыцыю ўніяцкай царквы. Пра гэта яскрава сьведчаць першыя нотныя выданьні —львоўскія Ірмалоі 1700 і 1709 гг. Яны даўно вядомыя дасьледчыкам. Аднак, напрыклад, у артыкуле Ю.Ясіноўскага, сьпецыяльна прысьвечаным гэтым выданьням, сакраментальнае слова "унія" не ўспамінаецца ні разу. Усё ж П.Пякарскі, на працу якога спасылаецца Ясіноўскі, недвухсэнсоўна піша, што біскуп Іосіф Шумлянскі, патаемна прыняўшы унію яшчэ ў 1681 г., у 1700 г. публічна прызнаў гэта і "падгаварыў базыльянаў пры царкве сьв. Юрыя" надрукаваць Ірмалой, "каб зрабіць падрыў львоўскай брацкай друкарні". Пэўна, наўрад ці Шумлянскі кіраваўся такімі намерамі, бо, як вядома, праваслаўныя нотныя выданьні зьявіліся значна пазьней, у другой палове XVIII ст. Такім чынам, Шумлянскі распачынаў цалкам новую працу — фіксаваньне рукапіснай традыцыі ў форме друкаў, а значыць, яе ўніфікацыю і кананізацыю. Ніякага "падрыву" выдавецкай дзейнасьці брацтва ў гэтым, натуральна, не было. Брацтва, якое перайшло да уніі ў 1708 г., у 1709 г. перадрукавала Ірмалой , выкарыстаўшы як нотны шрыфт, так і мастацкае афармленьне выданьня 1700 г. Невыпадкова досыць доўгі час гэтыя выданьні лічыліся ідэнтычнымі. Аднак Ясіноўскі, параўноўваючы методыку некаторых сьпеваў з Ірмалояў, прыйшоў да высноў, што выданьне 1700 г. ("біскупскае") адзначаецца максімальнай стандартызацыяй, спрашчэньнем і некаторай схематызацыяй меладычнага руху ў многіх сьпевах; у той жа час Ірмалой 1709 г. ("брацкі") "захоўвае меладычнае і ладаінтанацыйнае багацьце сьпеваў, выпрацаванае старажытнай рукапіснай традыцыяй".

У пазьнейшы перыяд уніяцкае нотадрукаваньне сканцэнтравалася ў Пачаеўскай лаўры. Тут выйшлі Асмагласьнік (1776 і 1793), Ірмалоі (1766, 1775, 1794) і Багагласьнік (1790). Наўрад ці можна лічыць гэта выпадковым. Як вядома, Пачаеўская лаўра перайшла да уніі адной з апошніх (пасьля 1721 г.). Па словах А.Хайнацкага, "з усіх заходнерускіх уніяцкіх манастыроў толькі ў адной Пачаеўскай лаўры богаслужбовы чын захоўваўся так блізка да ўставаў старажытнаправаслаўнай царквы, што астатнія базыльяне называлі пачаеўскае набажэнства "схізматычным".

Аналіз зьместу ўніяцкіх нотных выданьняў дэманструе, што яны пасьлядоўна захоўвалі старажытныя пеўчыя традыцыі заходнерускай царквы. Тыповым для беларускіх і ўкраінскіх рукапісных зборнікаў XVI-XVII стст. зьяўляецца ўжо сам выбар занатаваных музычных жанраў. Усе зборнікі, як Ірмалоі, так і Актоіхі, абавязкова ўтрымліваюць: 1) мелодыі актоіха — васьмі царкоўных галасоў (дагматыкі, антыфоны, сядальны, нядзельныя трапары, падобны, ірмосы канонаў); 2) найбольш значныя сьпевы розных касьцёльных урачыстасьцяў (літургіі Васіля Вялікага, Вялікага посту і г.д.); 3) выбраныя сьпевы абыходу. Інакш кажучы, гэта сьпецыфічная для заходнерускай традыцыі структура пеўчага зборніка, у якім аб'ядноўваюцца тры асноўныя пеўчыя кнігі ўсходняга абраду — Актоіх, Ірмалой і Сьвяты. І Супрасьльскія Ірмалоі 1598-1601 гг., 1639 і 1662 гг., і значна пазьнейшы Давыдкаўскі Ірмалой 1769 г. наглядна паказваюць устойлівасьць і заканамернасьць гэткай структуры манадыйных зборнікаў, выпрацаванай яшчэ ў XVI ст. і кананізаванай у рамках Уніяцкай Царквы.

Усе манадыйныя мелодыі захоўваюць архаічную ладавую структуру — так званы "абыходны гукарад". Для тлумачэньня яго інтэрвальнай пабудовы складальнікі зборнікаў карысталіся заходнееўрапейскай сальмізацыйнай сістэмай, аднак цалкам зьмянялі яе сэнс. [...] Уніяцкія Ірмалоі, фармальна карыстаючыся гексахордамі і сальмізацыйнымі назвамі асобных ступеняў, засноўваюцца [...] на стабільным неактыўным гукарадзе, у якім немагчымыя альтэрацыі (зьмены вышыні) асобных гукаў. Як здаецца, гэта адна з праяў адзначанай Ясіноўскім тэндэнцыі да ўпарадкаваньня і некаторай схематызацыі жывой інтанацыйнасьці рукапісных зборнікаў XVI-XVII стст. [...]

Мелодыка сьпеваў, як і іх ладавая аснова, таксама дэманструе мэтанакіраванае захаваньне старажытных традыцый. Гэты факт сьпецыяльна падкрэсьліваецца ў прадмове да львоўскага выданьня 1700 г.: так, інакі манастыра сьв. Георгія складалі Ірмалой на падставе выпраўленых старажытных рукапісаў. Каб высьветліць традыцыі, на якія абапіраліся складальнікі ўніяцкіх нотных выданьняў, намі былі прааналізаваны мелодыі цыклу дагматыкаў, падобных, асобныя сьпевы некаторых сьвятаў.

Дагматыкі — сьпевы вячэрні, якія завяршаюць цыкл стыхір на "Господи, воззвах"; асноўны зьмест дагматыка — праслаўленьне Божай Маці і выкладаньне догмы пра ўчалавечаньне Хрыста. Аўтар грэцкага тэксту дагматыкаў — вядомы праваслаўны багаслоў Ян з Дамаску (VIII ст.). Трэба адзначыць, што дагматыкі — адзін з найбольш кансерватыўных музычных жан-

Працяг на стар.14

# Музычнае мастацтва Ўніяцкай Царквы

*Працяг, пачатак на стар.12-13*

раў, ім уласьціва значная ўстойлівасьць мелодыкі, малая колькасьць самастойных "расьпеваў". Яны падпарадкоўваюцца сістэме актоіха, так што ўвесь цыкл складаецца з васьмі сьпеваў адпаведна колькасьці царкоўных тонаў. Пры параўнаньні мелодый дагматыкаў з уніяцкіх выданьняў са сьпевамі, прыведзенымі ў працы Ўсьпенскага, а таксама ў сінадальным выданьні, выявілася адзінства меладычнай асновы ўсіх варыянтаў дагматыкаў. [...]

Вельмі блізкія да падобнаў, прыведзеных у першым ноталінейным помніку Праваслаўнай Царквы — Супрасьльскім Ірмалоі 1598-1601 гг., падобны з Львоўскага Ірмалоя 1700 г. Падобен — гэта сьпеў, які па зьмесьце і структуры тэксту стаў узорам для некалькіх іншых. Часьцей за ўсё ў тэхніцы падобных стваралiся стыхіры і сядальны. Кожны царкоўны тон мае свой набор падобнаў, якія, такім чынам, разам з дагматыкамі таксама падпарадкоўваюцца актоіху. Большасьць падобнаў "напелу монастыря супрасльского, праведно внотование І.Т." сталі асновай сістэмы падобнаў з уніяцкіх выданьняў XVIII ст. [...]

Аналогіі з мелодыямі Супрасьльскага Ірмалоя можна прасачыць і на іншых сьпевах. К.Рутка адзначае, што львоўскія і пачаеўскія выданьні досыць дакладна паўтараюць увесь дзяместванны разьдзел Ірмалоя. "О Тобе радуется обрадованная" з літургіі Васіля Вялікага, пададзенае ў рукапісу ў двух асноўных варыянтах ("супрасьльскім" і "мірскім"), ва ўніяцкіх выданьнях прыведзена ў версіі, якая як бы аб'ядноўвае, сінтэзуе, часам спрашчае мелодыку старажытнага сьпеву.

Некаторыя сьпевы з уніяцкіх выданьняў (напрыклад, "На реках Вавилонских"; "С нами Бог" і інш.) зьяўляюцца варыянтамі так званага "кіеўскага" расьпеву. Як вядома, кіеўскі расьпеў у вялікай колькасьці выпадкаў супадае з росьпевам з Супрасьльскага Ірмалоя і, такім чынам, адлюстроўвае тыповую стылявую традыцыю заходнеправаслаўнай царквы.

Архаічныя рысы можна заўважыць і ў суадносінах тэксту і мелодыі. Уніяцкія выданьні абапіраюцца на даніканаўскую, так званую "Іосіфаўскую" рэдакцыю багаслужэбных тэкстаў. Выключэньне — Пачаеўскі Актоіх 1793 г., дзе, напэўна, пад уплывам афіцыйных расейскіх уладаў, прынята сінадальная версія. Аднак нават у Актоіху 1793 г. усё ж такі захоўваецца так званае "раздельноречие" ці расьпевы на зычных гуках як у канцы слоў, так і ў сярэдзіне іх. Вядома, што такая практыка, уласьцівая праваслаўнай традыцыі XV-XVI стст., была забаронена ў расейскай царкве пасьля ніканаўскіх рэформ сярэдзіны XVII ст. Ва ўніяцкіх выданьнях яна, як бачым, засталася аж да канца XVIII ст.

Падсумоўваючы нашы назіраньні, можна адзначыць, што ўніяцкая традыцыя нотадрукаваньня пасьлядоўна і мэтанакіравана захоўвала старажытныя манадыйныя традыцыі заходнеправаслаўнай царквы. Агульная карціна музычнага мастацтва ўніяцкай царквы, дзе побач са шматгалосай харавой і інструментальнай музыкай пастаянна гучалі традыцыйныя праваслаўныя мелодыі, пацьвярджае думку, выказаную дасьледчыкамі ўніяцкага іканапісу: "Створаныя Уніяй мастацтва і літаратура — павучальны прыклад кампрамісу, калі не адбываецца зьнішчэньня аднаго ці другога субстрату сінтэзу і разьвіцьцё адбываецца не на шляхах адной з культурных мадэляў, але знаходзіцца трэці шлях — запаветная мэта кожнага прынцыповага і творчага аб'яднаньня".

*"Віцебскі сшытак", № 2, 1996.*

*(Друкуецца з невялікімі скарачэньнямі паводле правапісу і тэрміналогіі,якія ўжываюцца ў газеце "Царква")*

## Дагматык 1-га тону

*знаменны расьпеў*

*Гарманізацыя да беларускага тэксту Вольгі Граськовай (Берасьце)*

Су_ сьвет_ ну_ ю сла_ ву, што ад лю_ дзей на_ра_дзі_
-ла_ ся і Ўла_да_ра на_ ра_дзі_ла Дзьве_ры ня_бе_сны_я,
ўсхва_лім Ма_ ры_ ю Дзе_ ву, А_ нё_ лаў пе_ сьню
і вер_ ных кра_ су. Я_ на, стаў_шы_ся не_бам
і Бо_ скім хо_ ра_ мам, зьні_ шчы_ ла сьця_ну
ва_ ро_ жа_ сьці, у_ ста_ на_ ві_ ла мір
і ад_чы_ ні_ ла ва_ ла_ дар_ства. У_ ма_ ца_ ва_ ны_ я
Ё_ ю ў ве_ ры Мы знай_шлі а_ба_ ро_
-нцу ў Го_спа_дзе, Я_ кі на_ ра_ дзіў_ ся ад Я_ е.
Дык сьме_ ла, лю_ дзі Бо_ жы_ я, будзь_ це до_брай ду_
-мкі, бо Ён, як У_ се_ ма_ гу_ тны во_ ра_гаў пе_ра_мог.

## Творчасьць нашых чытачоў

**Уладзімір Мураўскі**

***

Цемра. Аж вусьцішна робіцца неяк.
Страху пагрозьліва-чорная здань
ломіцца ў душы сьцюдзёнай завеяй,
скоўвае сэрцы ільдом, дзе ні глянь...

Зноў д'ябальскі рогат у ночы крывавай.
Сьвятыні сплываюць сьлязой.
Бо зноўку зьнішчаюць боты вандалаў
укрыжаваны край мой.

...Воск капае ціха сьлязьмі на падлогу,
і раптам пачую я самотны ўздых.
Праз цемру з маўклівай надзеяй на Бога
глядзелі самотныя вочы Сьвятых.

*г.Берасьце*



*Хачу з Вамі падзяліцца сваімі думкамі адносна зьместу газеты "Царква". У дадзены момант гэта газета носіць чыста грэка-каталіцкі характар па сваім зьмесьце, бо ў ёй друкуецца толькі тое, што цікава для грэка-католіка. Але грэка-католікаў пакуль у Беларусі няшмат. І таму попыт на газету невялікі. Да таго ж газета друкуецца толькі на беларускай мове па той прычыне, верагодна, што асобныя ўплывовыя людзі лічаць, што грэка-каталіцкая вера гэта толькі вера этнічных беларусаў. Між тым, гэта найперш каталіцкая вера, гэта значыць вера для ўсіх людзей, якім падабаецца наш абрад. Каб павялічыць попыт на нашу газету, я прапанаваў бы, акрамя чыста грэка-каталіцкай тэматыкі, уключыць у газету наступныя тэмы, якія носяць агульначалавечы характар, тэмы, якія цікавяць ня толькі грэка-католікаў, але і атэістаў ды людзей іншых веравызнаньняў:*

*1. Тупікі атэістычнага сьветапогляду.*

*2. Як упэўніцца ў існаваньні Бога.*

*3. Выбар праўдзівага сьветапогляду, крытэрыі такога сьветапогляду.*

*4. Боскі характар хрысьціянскай рэлігіі.*

*5. Сацыяльна-культурнае значэньне хрысьціянства і асаблівая яго важнасьць для народаў Еўропы, з гістарычнымі прыкладамі.*

*6. Параўнальная характарыстыка каталіцтва і іншых хрысьціянскіх веравызнаньняў.*

*Акрамя гэтага, у газеце павінен быць забаўляльны разьдзел: мудрасьць асобных біблейскіх выказваньняў, крыжаванкі на біблейскія тэмы, цікавыя, актуальныя выказваньні мудрацоў старажытнасьці і каталіцкіх сьвятых і інш., нават кулінарныя рэцэпты, медычныя парады.*

*Адносна мовы, на якой павінны друкавацца артыкулы ў газеце. Каталікі лацінскага абраду выдаюць газеты адначасна на двух-трох мовах, і ад гэтага іх газеты не губляюць сваёй прыцягальнасьці. Напрыклад: часопіс "Дыялог" выдаецца на расейскай, беларускай і польскай мовах накладам 11000, газета Гарадзенскай епархіі "Слова жыцьця" выдаецца на расейскай і беларускай мовах і мае наклад 8000 асобнікаў. Амаль уся Беларусь гаворыць на расейскай мове... Трэба ж быць ў рэшце рэшт рэалістамі. Я не хачу сваёй прапановай друкаваць газету і на расейскай мове зьменшыць значэньне беларускай мовы. Самае галоўнае дапамагчы людзям стаць добрымі хрысьціянамі. Бо калі чалавек стане добрым хрысьціянінам, ён стане і добрым грамадзянінам і патрыётам сваёй Бацькаўшчыны. І тады ён пажадае ведаць і беларускую мову (калі яе ня ведае). Вось жа посьпехі сектантаў шмат у чым тлумачацца тым, што з імі размаўляюць на звыклай для іх мове — расейскай...*

*Барані Вас Гасподзь.*

**а. Віктар Данілаў**
*г.Горадня*

*Ад рэдакцыі:*

Шаноўны а. Віктар! Найперш шчыры дзякуй за цікавыя прапановы і заўвагі адносна зьместу нашай газеты. У асноўным мы іх падзяляем і вельмі разьлічваем на супрацоўніцтва з Вамі для рэалізацыі гэтых прапановаў на старонках газеты "Царква".

Вы адзначылі, што газета "Царква" сёньня носіць чыста грэка-каталіцкі характар па сваім зьмесьце. Нас гэтае вызначэньне вельмі цешыць, бо найперш мы бачым сваю задачу ў тым, каб выдаваць газету для беларускіх грэка-католікаў, а таксама пашыраць інфармацыю пра нашу Царкву і іншыя Ўсходнія Каталіцкія Цэрквы, пра наш абрад. Як Вы ведаеце, існуе нямала памылковых уяўленьняў у нашым грамадзтве. Вы вельмі слушна падкрэсьліваеце, што найперш мы — католікі. Так, мы — католікі, але шануем сваю ўсходнюю духоўную традыцыю і беларуска-візантыйскі абрад.

Адносна мовы ў нашай газеце. Пытаньне гэтае сапраўды балючае і няпростае. Але нам здаецца, што для чалавека, які прагне стаць хрысьціянінам, сёньня ў Беларусі існуе ў дастатковай колькасьці розных рэлігійных выданьняў на расейскай ды польскай мовах. Яе выдаюць і ў Беларусі, і ў Расеі, і ў Польшчы, і ў іншых краінах. Таму кропля расейскамоўнай інфармацыі на старонках газеты "Царква" мала што дадасьць. У катэхетычных мэтах лепей карыстацца іншай рэлігійнай літаратурай, якая, безумоўна, павінна выдавацца на розных мовах. Акрамя таго, праз выданьне беларускамоўнай рэлігійнай газеты мы спадзяёмся ўнесьці свой сьціплы ўклад у сусьветную хрысьціянскую культуру. На жаль, сьвядомая беларуская інтэлігенцыя не адзначаецца асаблівай рэлігійнасьцю, і таму мы лічым неабходным працаваць для яе. Гэта эліта нацыі, за якой цягнуцца ўсе астатнія... Тое, як мы сёньня жывём, паказчык духоўнага ўзроўню беларускай эліты.

Рэдакцыя "Царквы" прапануе чытачам выказаць і свае меркаваньні па закранутых пытаньнях.

*Выдавец газеты "Царква" сьвятар* **Ігар Кандрацьеў**



*Добры дзень!*

*З вялікай цікавасьцю азнаёміўся з газетай "Царква". Вось ужо больш за дзесяць гадоў я выкарыстоўваю кожную магчымасьць, каб пазнаць гісторыю свайго краю, пазнаць гісторыю Беларусі. Менавіта праз краязнаўства ў мяне зьявілася цікавасьць і да хрысьціянства. Усё, што мне ўдалося знайсьці пра гісторыю рэлігійных уплываў на роднай Шклоўшчыне, я апісаў у артыкуле "Рэлігійныя ўплывы на Беларусі праз люстэрка Шклова", які быў надрукаваны ў часопісе "Магілёўшчына" (Магілёў, V выпуск, 1994 г.). На жаль, амаль нічога не ўдалося знайсьці пра існаваньне ўніяцкіх цэркваў. Між тым, такія парафіі ў Шклове дзейнічалі, пра што існуе некалькі ўскосных даведак. Зараз у нашым невялікім горадзе дзейнічае чатыры рэлігійныя прыходы, у тым ліку і рыма-каталіцкі. Паўразбураны будынак касьцёла Пятра і Паўла вернуты вернікам, і пачалася праца па яго аднаўленьні. Для правядзеньня набажэнстваў кожную нядзелю да шклоўскіх католікаў прыязджае сьвятар з суседняга Магілёва. Ёсьць сярод жыхароў Шклова і прыхільнікі ўніяцтва. Хочацца спадзявацца, што з Божай ласкі, калі-небудзь і ў Шклове будзе грэка-каталіцкі прыход.*

*Жадаю посьпехаў рэдакцыі газеты "Царква" і буду вельмі ўдзячны, калі буду атрымліваць гэту газету ў далейшым.*

*P.S. З газетай "Царква" мне дапамаглі сустрэцца вернікі грэка-каталіцкай парафіі горада Магілёва, за што ім вельмі ўдзячны.*

**Аляксандр Грудзіна**
*г.Шклоў*

*Ад рэдакцыі:*

Нас вельмі цешыць, што "Царкву" чытаюць нават у тых мясьцінах, дзе яшчэ няма грэка-каталіцкіх парафіяў. Разам са сп.Грудзінам спадзяёмся, што нашы шклоўскія прыхільнікі здолеюць праз нейкі час утварыць у гэтым старажытным месцы парафію БГКЦ. А ўсіх чытачоў "Царквы" заклікаем пашыраць нашу грэка-катліцкую газету па ўсіх кутках роднай Беларусі.



*Шаноўнае спадарства!*

*Шчыра дзякую за цудоўную газету "Царква". Чытаю яе з задавальненьнем. Аднак я лічу, што арфаграфія ў выданьні павінна быць падобнай на правапіс "Нашай Нівы". Што вы на гэта скажаце?*

**Юрась Сьцяпанаў**
*г.Віцебск*

*Ад рэдакцыі:*

Мы таксама, як і "Наша Ніва", лічым, што сучасны правапіс беларускай мовы мусіць быць рэфармаваны. У газеце "Царква" мы вырашылі прытрымлівацца асноўных прапановаў, падтрыманых Таварыствам беларускай мовы імя Ф.Скарыны.



*Пахвалёны Езус Хрыстус!*

*Добры дзень, "Царква"!*

*Піша вам прыхаджанін аршанскага касьцёла сьв.Язэпа. Няма ў нас у горадзе ўніяцкіх храмаў, хаця раньш былі. Вось чаму той, хто лічыць сябе Беларусам-Хрысьціянінам, знаходзіць супакой у рыма-каталіцкім касьцёле. Дзякуючы прыцягальнай сіле а. Яраслава, ягонай шчырасьці, дабрыні, прапагандзе беларусчыны, наш касьцёл стаў сапраўдным цэнтрам духоўнага Адраджэньня і, напэўна, адзінай установай у горадзе, дзе беларус адчувае сябе на роднай зямлі. Сапраўды, мы можам ганарыцца нашай супольнасьцю.*

*Аднак ёсьць і складанасьці. Ня можам мы знайсьці адзінства з некаторымі прыхаджанамі старэйшага пакаленьня. Калі-нікалі і чуецца з іх вуснаў абраза беларускай мовы; мы (маладыя) молімся за Свабоду і Незалежнасьць, а яны за "самага чэснага". Вось і думаем, можа, таму Бог і не спрыяе Беларусі, што хрысьціяне моляцца за рознае — супрацьлеглае?*

*Буду рады, калі стану вашым сталым падпісчыкам. Ахвярую хоць невялікія, але грошы — 40 000 руб. Дапамажы вам Бог!*

**У.Супаненка**
*г.Орша*

*Ад рэдакцыі:*

Рэдакцыя "Царквы" шчыра дзякуе ўсім, хто падтрымлівае нашу газету маральна і матэрыяльна, асабліва сп.У.Супаненка з Воршы і сп-ні Клаўдзіі А. са Сьвіслачы!



*Для дзяцей*

# Шануйма нашу Маці-Багародзіцу

На кожнай Літургії мы чуем словы: "Успамянуўшы найсьвятую, усячыстую, найблаславёную, слаўную Уладарку нашу Багародзіцу і заўсёды Дзеву Марыю і ўсіх сьвятых, самі сябе і адзін аднаго, і ўсё жыцьцё наша Хрысту Богу аддайма". Мабыць, ты, дружа, хацеў бы больш дакладна даведацца пра сэнс гэтых словаў, чаму мы так ушаноўваем Марыю, называючы яе найсьвятою, усячыстаю, найблаславёнаю і г.д. І чаму для таго, каб аддаць сваё жыцьцё Хрысту, мы ўспамінаем і Ягоную Маці?

Ты ўжо ведаеш, што Ісус Хрыстос — Сын Божы, які выратаваў нас ад ўлады граху. Мы ня лічым Багародзіцу багіняю, як, магчыма, думаюць некаторыя людзі. Але яна як ніхто іншы са сьвятых выключна шмат робіць для збаўленьня людзей.

Пасьля непаслушэнства Адама і Евы ўсе людзі трапілі пад уладу граху. Але Бог, абраўшы Марыю, збавіў яе ад першароднага граху яшчэ да нараджэньня. Таму мы называем Марыю ўсячыстай. Гэтую чысьціню яна захавала праз усё сваё жыцьцё.

Калі ж настаў час нарадзіцца Сыну Божаму ніхто з людзей нават не разумеў кім павінен быць наш Збаўца. Лічылі, што Ён будзе сынам зямнога цара, магутным воінам і пераможцай. Толькі сьціплая дзяўчына ў невялікай вёсачцы Назарэт чакала сапраўднае Ягнё Божае. Паважаючы свабоду волі кожнага чалавека, Бог паслаў анёла даведацца, ці згодная Марыя стаць Маці Божай. Яна пакорна, без ганарлівасьці адказала: "Так!"

Падчас укрыжаваньня Ісуса Хрыста Багародзіца стаяла пад крыжам і бачыла пакуты ды сьмерць Сына Божага. Тое, што Ён перажыў фізічна, Марыя перажыла духоўна. Яе пакуты больш за пакуты ўсіх сьвятых.

У сваім жыцьці Дзева Марыя шмат дапамагала людзям. Але нават і пасьля сваёй сьмерці, якая была больш падобная на сон (у царкоўнай традыцыі мы называем гэта Усьпеньнем Багародзіцы), яна не перастае маліцца за нас і заступаецца за тых, хто зьвяртаецца да яе па дапамогу. Багародзіца просіць свайго Сына і Ён заўсёды выконвае гэтыя просьбы. Таму вельмі важна ў малітвах зьвяртацца да Багародзіцы.

У 1997 годзе мы адзначаем 80-годдзе зьяваў Маці Божай у Фаціме. Там, у невялічкай партугальскай вёсцы, Дзева Марыя зьяўлялася на працягу паўгода тром пастушкам. Праз іх Марыя прасіла: "Пакутуйце, навяртайцеся, маліцеся". Кожную сваю справу мы мусім ахвяраваць Богу: дапамогу бацькам, вучобу ў школе, штодзённую малітву, наведваньне царквы і іншае. Навяртацца да Хрыста лепш за ўсё прымаючы Яго ў сьвятых Тайнах, а таксама паказваючы сваю любоў да людзей добрымі ўчынкамі.

Маліцца Багародзіца прасіла ў першую чаргу на ружанцы. Ты, дружа, магчыма, ужо чуў пра гэты спосаб малітвы пры дапамозе пацераў. Ісус Хрыстос і Ягоная Маці вельмі пакутуюць, што шмат людзей у сьвеце ня любяць Бога, абыякава адносяцца да пакутаў Сына Божага. За такіх людзей трэба маліцца ў першую чаргу. А каб нам самім ня быць падобнымі на іх, будзьма ж браць прыклад з Дзевы Марыі. У сваіх учынках яна паказала любоў да Бога. Без гэтай любові не змагла б яна стаць зямною Маці Божага Сына, усё жыцьцё падтрымліваць Яго, а таксама дапамагаць нам.

Уважліва разважай, дружа, над таямніцамі ружанцу, кіруй сваім жыцьцём "успамянуўшы найсьвятую, усячыстую, найблаславёную, слаўную Уладарку нашу Багародзіцу".

**Андрэй Крот**

*г.Берасьце*

*Яр Сожыс*

## Літанія

Калі да нас прыдуць жахлівыя дні,
Я веру, што нам дапаможаш ня раз
Пакрытыя мохам зьбіраць камяні.
— Сьвятая Марыя, маліся за нас.

Калі прыйдзе смутак ці боль запячэ,
Будзь з намі заўсёды, заўжды ў гэты час,
Каб выцерці сьлёзы з пакутных вачэй.
— Сьвятая Марыя, маліся за нас.

Калі нашы дзеці паверацъ ілжы,
Нібы нашы сьмерці — дзяржаўны заказ,
Сьвятая Марыя, на крыж пакажы.
— Сьвятая Марыя, маліся за нас.

Калі на Зямлі будзе мір-супакой
(Браты заклікаю да гэтага вас),
Усё роўна для нас будзь адзінай-адной.
— Сьвятая Марыя, маліся за нас.

*г.Гомель*

## Шаноўныя чытачы газеты "Царква"!

Нашу газету вы заўжды зможаце знайсьці ў грэка-каталіцкіх парафіях Менска, Берасьця, Баранавічаў, Івацэвічаў, Горадні, Маладэчна, Ліды, Магілёва, Віцебска, Полацка, Гомеля. Калі ж у вашай мясцовасьці няма такой магчымасьці атрымліваць "**Царкву**", прапануем вам даслаць свае адрасы нам у рэдакцыю. Мы пастараемся абавязкова даслаць вам нашу газету.

Будзем таксама вельмі ўдзячныя любым вашым заўвагам, прапановам і меркаваньням адносна зьместу газеты "**Царква**", а таксама ахвяраваньням і дапамозе ў распаўсюджваньні адзінай у Беларусі грэка-каталіцкай газеты.

*Адказы на крыжаванку, зьмешчаную ў газеце "Царква", № 2, 1997.*

**Па вертыкалі**: 1. Пётр. 3. Рута. 5. Адам. 6. Мітра. 7. Арган.

**Па гарызанталі**: 2. Мятод. 4. Богша. 5. Арнат.

Прыз рэдакцыі за правільны адказ на пытаньні крыжаванкі атрымае сп-ня *Ганна Мальчук* з Берасьця.

**Царква**
*грэка-каталіцкая газета*
**№ 3 (14), 1997**

**Адрас рэдакцыі:**
Беларусь, 224014, г.Берасьце, вул.Дворнікава, 62/1-1.
Тэл.: (0162) 202087.

**Нумар падрыхтаваны**: Берасьцейскай грэка-каталіцкай парафіяй сьвятых братоў апосталаў Пятра і Андрэя.
**Выдавец**: сьвятар Ігар Кандрацьеў.
**Рэдактар**: дыякан Андрэй Абламейка.
**Царкоўны асістэнт**: протапрасьвітар Ян Матусевіч.
**Падпісана ў друк**: 5 верасьня 1997 года, а 23-30.
**Паліграфічныя работы**: "Арбор", Менск, вул.Мележа, 3.
*Газета выдаецца на ахвяраваньні вернікаў. Дзякуем за ахвяру!*
***Наш разьліковы рахунак № 3015200210017***
***у Берасьцейскім філіяле № 2 КБ "Абсалютбанк", МФО 150501242***
Аб'ём — 2,0 ул.-выд.аркушы. Наклад 499. Замова №